# БЕЛАРУСКАЯ МОВА

Падручнік для **3** класа
ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі
з рускай мовай навучання

У дзвюх частках

Частка 2

*Зацверджана*
*Міністэрствам адукацыі*
*Рэспублікі Беларусь*

2-е выданне,
выпраўленае і дапоўненае



МІНСК
НАЦЫЯНАЛЬНЫ ІНСТЫТУТ АДУКАЦЫІ
2012

УДК 821.161.3(075.2=161.1)
ББК 81.2Беи-922
Б43

А ў т а р ы:
**Т. М. Валынец, І. Э. Ратнікава, І. С. Роўда, П. П. Шуба**

Р э ц э н з е н т ы:
канд. пед. навук, дац. кафедры беларускага і рускага мовазнаўства факультэта пачатковай адукацыі ўстановы адукацыі «Беларускі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт імя Максіма Танка» *В. І. Свірыдзенка*;
метадычнае аб'яднанне настаўнікаў пачатковых класаў дзяржаўнай установы адукацыі «Сярэдняя агульнаадукацыйная школа № 131 г. Мінска» (нам. дырэктара па вучэбнай рабоце *Т. В. Шантур*)

**Умоўныя абазначэнні:**

 — дамашняе заданне;

 — правіла;

 — дадатковае заданне да практыкавання;

 — падказка слоўніка

**ISBN 978-985-559-071-3 (ч. 2)**
**ISBN 978-985-559-069-0**

# ЧАСЦІНЫ МОВЫ

## НАЗОЎНІК




Словы ў моўнай краіне — гэта знаёмыя незнаёмцы. Кожны раз, калі мы сустракаемся з імі, яны расказваюць пра сябе нешта новае. Вось і зараз, мы толькі пачынаем урок, а словы нас ужо папярэджваюць: **кожнае слова ў граматыцы — гэта часціна мовы.**

**1.** Прачытайце. Выпішыце словы — назвы прадметаў. Пастаўце да іх пытанні.

Зямля ў нас адна. І ўсе мы на ёй суседзі. Рэчка і бусел, дрэва і травінка, кветка і пчала, мураш і чалавек — гэта ўсё жыхары зямлі, яе багацце.

*Я. Сіпакоў*

Словы — назвы прадметаў *(матылёк, лялька, воблака, падручнік...)* — гэта **назоўнікі.** Яны адказваюць на пытанні ***хто?*** або ***што?***

**2.** Прачытайце. Выпішыце з верша словы, якія рыфмуюцца. Якой часцінай мовы яны з'яўляюцца? На якія пытанні адказваюць?

### Дударык

Дудку ўзяў малы камарык,
Грае звонка ён, дударык.
Зашумеў зялёны бор.
Скача лёгкі мухамор.

Скачуць разам, як сястрычкі,
Сыраежкі і лісічкі,
Скача, скача баравік —
Аж згубіўся чаравік.

*Т. Храпавіцкая*

**3.** Збярыце «непаслухмяныя» літары і складзіце з іх словы — назвы намаляваных прадметаў. Якой часцінай мовы яны з'яўляюцца? На якія пытанні адказваюць?










● Якія яшчэ словы можна скласці з літар усіх трох слоў? Складзіце 2—3 словы і запішыце іх у сшытак. Пастаўце да іх пытанні.

**4.** Прачытайце. Якія словы ў радках лішнія? Растлумачце чаму.

1. Вясёлка, пячэнне, весяліцца, цацка.
2. Вецер, раніца, спяваць, гоман.
3. Клён, чарадзей, вулей, светлы.
4. Песня, восень, восеньскі, іскрынка.
5. Талерка, лыжка, відэлец, вісіць.

***ву́лей***

● З першага і трэцяга радкоў выпішыце назоўнікі. Пастаўце да іх пытанні (вусна).

**5.** Прачытайце. Як паэт апісвае цыбулю? З дапамогай якіх слоў «ажыўляе» яе? Ці ёсць сярод гэтых слоў назоўнікі? Якія?

Сто адзежак апранула,
Твар ад сонца захінула,
Як старэнькая бабуля,
Дрэмле, седзячы, цыбуля.

*А. Дзяржынскі*



● Спішыце верш. Падкрэсліце ў ім назоўнікі. Пастаўце да іх пытанні (вусна). На якое пытанне (*хто?* або *што?*) адказвае назоўнік *цыбуля*?



**6.** Прачытайце. Адгадайце загадку.



На спіне прапелер маю,
Быццам Карлсан, я лятаю.
І нястомны працаўнік,
Сейбіт, кран і вартаўнік.

*У. Мацвеенка*



*Се́йбіт* — той, хто сее зерне, засявае поле.

● Запішыце загадку разам з адгадкай у сшытак. Знайдзіце і падкрэсліце назоўнікі. Пастаўце да іх пытанні (вусна).

**7.** Прачытайце.

**Смачны горад**

Смачны горад —
Сад-гарод.
Незвычайны тут народ:
Моркаўка,
Капуста —
Кожнаму па густу...

Памідоры ёсць,
Гуркі —
Паласатыя бакі,
Бручка,
Рэпка і салат,
Ды і кропу, маку шмат.

*А. Дзяржынскі*

● Выпішыце з верша словы, якія называюць тое, што расце ў «Смачным горадзе». Пастаўце да іх пытанні. Вызначце, якой часцінай мовы яны з'яўляюцца.

● Якім адным словам можна назваць усіх жыхароў «Смачнага горада» — *расліны, дрэвы, гароднiна, травы*...?

**8.** Прачытайце назвы прадметаў. Як можна іх аб'яднаць? Дапоўніце радкі патрэбнымі словамі.

1. Маланка, вецер, дождж — гэта ... .
2. Шчасце, ласка, радасць — гэта ... .
3. Вярба, таполя, бяроза — гэта ... .

Словы для даведкі: *дрэвы, з'явы прыроды, чалавечыя пачуцці.*

**9.** Прачытайце. Колькі ў вершы сказаў? Знайдзіце ў сказах назоўнікі. Вызначце, якімі членамі сказа яны з'яўляюцца.

Прыляцелі з поўдня
Спеўныя шпакі.
Зазвінелі ў небе
Жаўранкаў званкі.
*П. Прануза*

У сказе назоўнікі часцей за ўсё бываюць дзейнікамі або дадатнымі членамі сказа.

**10.** Прачытайце. З кожнага сказа выпішыце дзейнік і выказнік. Падкрэсліце іх.

Узышло сонца. Першыя залатыя промні пранізалі **вяршаліны** елак. І адразу прачнуўся мурашнік. З падземных **галерэй** выйшлі наверх мурашы. Закіпела вакол работа!

*З. Бяспалы*

- Пастаўце пытанні да выдзеленых слоў. Вызначце, якімі членамі сказа (галоўнымі ці даданымі) яны з'яўляюцца.
- Як вы разумееце сэнс сказа *Закіпела вакол работа!*?

**11.** Адшукайце лішняе слова. Растлумачце, чаму яно лішняе.

1. Падручнік, гумка, кашуля, дзённік.
2. Малпа, таполя, вавёрка, дзік.
3. Верасень, кастрычнік, лыжы, лістапад.

- Запішыце радкі ў сшытак без слоў, якія вы лічыце лішнімі.
- Складзіце сказы са словамі, якія вы палічылі лішнімі. Вызначце, якімі членамі сказа з'яўляюцца гэтыя словы.

**12.** Гульня «Хто больш». Падзяліцеся на дзве каманды. Адна называе словы — назвы дзікіх звяроў, другая — назвы кветак. Перамагае каманда, якая прапануе больш слоў-назваў.



**13.** Прачытайце верш. Спішыце яго. Знайдзіце ў ім назоўнікі. Вызначце, якімі членамі сказа яны з'яўляюцца, і адпаведна падкрэсліце.

Збіраюць дзеці лісце.
Яно злятае з дрэў.
Дзіцячыя далонькі
Асенні ловяць спеў.

*Н. Пінчук*

● Знайдзіце ў вершы аднакаранёвыя словы.

## Назоўнікі, якія адказваюць на пытанне х т о?, і назоўнікі, якія адказваюць на пытанне ш т о?

**14.** Прачытайце і адгадайце загадкі. Запішыце да іх словы-адгадкі.

1. Пад соснамі, пад ёлкамі ляжыць клубок з іголкамі.

2. Круглы, ды не гарбуз, з хвастом, ды не мыш.



● Пастаўце пытанні да слоў-адгадак. Якое з іх адказвае на пытанне *хто?*, а якое — на пытанне *што?* Падумайце чаму.

Назоўнікі, якія абазначаюць людзей і жывёл, адказваюць на пытанне ***хто?***

Назоўнікі, якія абазначаюць рэчы, расліны, адзенне і іншыя прадметы, адказваюць на пытанне ***што?***




**15.** Раздзяліце словы на дзве групы: а) словы, якія называюць жывыя прадметы; б) словы, якія называюць нежывыя прадметы.

Коўдра, відэлец, певень, хустка, лётчык, рэчка, шчупак, вішня, майстар, сцежка.

**16.** Прачытайце. Пастаўце і запішыце пытанні да выдзеленых назоўнікаў.

Узор. *Пасля цёплага дажджу адразу неяк зацвіла наша* (што?) *рабіна.*

Пасля цёплага дажджу адразу неяк зацвіла наша **рабіна**. Зацвіла буйна, пышна. Снавалі над рабінай **пчолы**. Стаяла **сонца**. Звінеў **жаваранак**. І вельмі пахла мёдам. І не хацелася нікуды ісці адтуль.

*Я. Пархута*

● Чаму да адных назоўнікаў вы паставілі пытанне *хто?*, а да другіх — пытанне *што?*

**17.** Прачытайце. Дапішыце назвы прадметаў па ўзоры.

У з о р. Людзі *(хто?)*: дзядзька, … .

Звяры *(хто?)*: воўк, … .
Птушкі *(хто?)*: ластаўка, … .
Расліны *(што?)*: чабор, … .
Рэчы *(што?)*: абрус, … .

***чаро́мха***

Словы для даведкі: *дзядуля, канюшына, барсук, малаток, унук, мяч, сяброўка, бусел, чаромха, трава, клетка, цукерка, тыгр, папараць, голуб, зубр, папугай, прыяцель, вядро, лямпа, малпа, арол, кошык.*

**18.** Прачытайце.

**Хто смялейшы?**

Ён баіцца каршука,
Індыка і гусака,
Не баіцца павука,



І жука, і чарвяка.
Я баюся павука,
І жука, і чарвяка,
Не баюся каршука,
Індыка і гусака.
Хто смялейшы:
Я — Сяргей,
Ці маленькі верабей?

*І. Муравейка*





*Каршу́к* — каршун (вялікая драпежная птушка з вялікімі крыламі і загнутай дзюбай).

● Выпішыце з тэксту назоўнікі, якія абазначаюць птушак, потым — назоўнікі — назвы астатніх жывых істот. На якое пытанне (*хто?* або *што?*) яны адказваюць? Чаму?



**19.** Запішыце словы ў тры радкі: 1) ежа; 2) посуд; 3) птушкі.

Узор. 1. Ежа: алей, ... .
2. Посуд: талерка, ... .
3. Птушкі: бусел, ... .

Масла, ластаўка, цукар, кубак, аладкі, зязюля, лыжка, дранікі, верабей, відэлец.

● Словы якога радка адказваюць на пытанне *хто?* Чаму?



Адзін з маіх сяброў пачаў казку пра зайздрослівую варону складаць. Напісаў некалькі сказаў і да мяне прыбег, пытаецца, чаму сказы ў яго нейкія дзіўныя атрымліваюцца. Чытаеш іх, чытаеш, а не разумееш.

**20.** Прачытайце пачатак гэтай казкі. Падумайце, чаму ён атрымаўся незразумелым.

Жыла ў лес( ) чорная-чорная Варона. А лес той падступаў да самага возера. А над возер(а) тым белыя чайкі кружылі.

Сядзела Варона на сасн(а) высокай ды адно і рабіла, што чайк(і) зайздросціла...



У сказах назоўнікі змяняюцца па пытаннях так, як патрабуюць гэтага іншыя словы сказа. Каб змяніць назоўнік, трэба:

1) знайсці слова, ад якога ён залежыць;

2) ад гэтага слова паставіць пытанне да назоўніка.

*На (трава) блішчаць буйныя кроплі (раса).* —

на чым? чаго?

*На траве блішчаць буйныя кроплі расы.*

**21.** Прачытайце яшчэ раз тэкст з практыкавання 20. Вызначце, якія назоўнікі забыўся змяніць аўтар.

**22.** Прачытайце. Назоўнік *бярозка* змяніце ў адпаведнасці з пытаннямі. Запішыце сказы.

На палянцы расце высокая *(што?)* ... . Ад кучаравай зеляніны *(чаго?)* ... дыхае незвычайнай свежасцю. Гэтай маладзенькай *(чаму?)* ... ўсяго шэсць гадоў. І дрэвы, што растуць навокал, ахоўваюць *(што?)* ... ад вятроў.

Кожнай вясной любуемся мы нашай прыгожай *(чым?)* ... . На *(чым?)* ... між лісткамі з'яўляюцца маленькія кветкі-завушніцы.

**23.** Змяніце па пытаннях назоўнікі *дрэва* і *зязюля*. Абазначце канчаткі. Чаму назоўнікі *зязюля* і *дрэва* змяняюцца па розных пытаннях?

Расце *(што?)* дрэв[а].
Не знайсці *(чаго?)* ... .
Узрадавацца *(чаму?)* ... .
Пасадзіць *(што?)* ... .
Любавацца *(чым?)* ... .
Гаварыць *(аб чым?)* ... .

Прыляцела *(хто?)* зязюл[я].
Не заўважыць *(каго?)* ... .
Дапамагчы *(каму?)* ... .
Слухаць *(каго?)* ... .
Назіраць *(за кім?)* ... .
Памятаць *(аб кім?)* ... .



Назоўнікі, якія абазначаюць людзей і іншых жывых істот, змяняюцца ў сказах па розных пытаннях: ***хто? каго? каму? каго? кім? аб кім?***

Назоўнікі, якія абазначаюць рэчы, расліны і іншыя прадметы, змяняюцца ў сказах па пытаннях: ***што? чаго? чаму? што? чым? аб чым?***

**24.** Прачытайце. Знайдзіце ў тэксце назоўнікі. Вызначце, на якія пытанні яны адказваюць.

Лісе можа пазайздросціць любы звер. Яе імя ўвекавечана ў казках і прымаўках. Не хопіць, пэўна, зімовага вечара, каб расказаць пра ўсе яе хітрыкі. Успомніце, як ліса параіла галоднаму ваўку налавіць рыбкі хвастом і што з гэтага выйшла. Нават мядзведзя абхітрыла рыжая махлярка. Я ўжо не кажу пра птушак і зайцоў. Ім найбольш дастаецца ад хітрай драпежніцы.

*У. Ягоўдзік*

● Спішыце першыя 4 сказы. Пастаўце ў дужках пытанні да назоўнікаў па ўзоры.

У з о р. (Хто?) *вавёрка частавала* (каго?) *гасцей* (чым?) *арэшкамі і* (чым?) *грыбамі*.

● Якімі словамі называе аўтар лісу? Якія з іх не толькі называюць, але і характарызуюць яе?

**25.** Прачытайце і параўнайце загалоўкі да тэкстаў — «Падарунак мамы» і «Падарунак маме». Ці аднолькавы змест будуць мець тэксты з гэтымі загалоўкамі? Калі не, то растлумачце чаму.



**26.** Прачытайце, змяняючы назоўнікі так, як гэтага патрабуюць іншыя словы сказа.

Неўзабаве дарога прывяла мяне да (азярцо). Вада ў (азярцо) празрыстая, як сляза. Нават відаць, як на (дно) яго ляжаць шэрыя дробныя каменьчыкі.

Над (азярцо) я ўбачыў (чайка). Раптам яна застыла на адным (месца). Потым часта замахала (крылы) і каменем кінулася ў азярцо. Праз (хвіліна) чайка выскачыла з-пад (вада). У (дзюба) птушка трымала невялікую (рыбка).

*Я. Галубовіч*

● Спішыце тэкст. У апошніх двух сказах падкрэсліце назоўнікі, якія з'яўляюцца дзейнікамі.

## Род назоўнікаў

**27.** Прачытайце. Падумайце, да слоў якіх радкоў можна падставіць словы *ён, мой, яна, мая, яно, маё*. Паспрабуйце растлумачыць чаму.

1. Хлопчык, конь, дом.
2. Сяброўка, кніга, ігруша.
3. Мора, неба, вядро.

Вылучаюцца тры групы назоўнікаў у залежнасці ад таго, да якога граматычнага роду яны належаць. Гэта назоўнікі мужчынскага, жаночага і ніякага роду.

Да назоўнікаў **мужчынскага роду** можна падставіць словы ***ён, мой.***

Да назоўнікаў **жаночага роду** — ***яна, мая.***

А да назоўнікаў **ніякага роду** — ***яно, маё.***

**28.** Прачытайце. Выпішыце ў тры радкі назоўнікі па ўзоры.

У з о р. ***Ён, мой:*** *часопіс*, **...** .
***Яна, мая:*** *газета*, **...** .
***Яно, маё:*** *поле*, **...** .

Літара, бабуля, акно, дзядуля, вуха, вучань, вяселле, акунь, надвор’е, капялюш, зямля, возера, ліса.

**29.** Прачытайце, устаўляючы замест кропак патрэбныя словы — *ён, яна, яно*.

1. Зязюля гнязда свайго не ладзіць. ... ўсё лета кукуе па пералесках і садах.
2. Ходзіць бусел па балоце. ... шукае пад імхом чарвякоў і жучкоў.
3. Ягнятка было прыгожае, быццам апранутае ў чорны кажушок. ... з цікаўнасцю паглядала ў наш бок і чакала гасцінца.

- Спішыце сказы (адну пару — на выбар).

**30.** Прадоўжыце радкі словамі: *пытанне, настаўнік, кветка, лета, матуля, сябар*. Растлумачце свой выбар.

1. Мой паважаны ..., ... .
2. Мая прыгожая ..., ... .
3. Маё цікавае ..., ... .




**Звярніце ўвагу!** Словы — назвы прымет таксама могуць дапамагчы вызначыць род назоўніка.

Напрыклад, у спалучэнні слоў *новы раяль* слова *раяль* — мужчынскага роду. Гэта падказала нам слова *новы* (параўнайце: *новая спадніца* — жаночы род, *новае паліто* — ніякі род).

**31.** Прачытайце. Вызначце, да якога роду адносяцца выдзеленыя назоўнікі. Выпішыце іх па ўзоры.

У з о р. *Хмара (яна, мая) — ж. р.*

Самы непрыемны **занятак** для Дзяніскі — есці.

Вось і сёння. З'еў **Дзяніска** дзве лыжкі супу. І пачаў разглядаць талерку. Яна нагадвае яму **азярцо**. Гушча — гэта **дно**. Зверху, зразумела, **вада**. Сям-там плавае **кроп** — гэта **трава**, што расце каля берага. Па азярцы рухаецца **лодка** — гэта **лыжка**. У лодцы, вядома, сядзіць ён, Дзяніс, спрытна грабе вёсламі...

*Т. Мушынская*

● Знайдзіце ў тэксце сказы, у якіх гаворыцца пра тое, якой бачыць Дзяніска талерку з супам. Падумайце, для

чаго ў гэтых сказах аўтар выкарыстоўвае назоўнікі *азярцо, дно, трава, лыжка*: каб назваць прадметы ці параўнаць адзін прадмет з другім?



**32.** Прачытайце. Вызначце род назоўнікаў і запішыце іх радкамі.

1. Назоўнікі мужчынскага роду *(ён, мой)* — ..., ... .
2. Назоўнікі жаночага роду *(яна, мая)* — ..., ... .
3. Назоўнікі ніякага роду *(яно, маё)* — ..., ... .




Палац, завея, шпак, сонца, **раніца**, воблака, вёска, колер, **яйка**, птушка, гняздо, **чараўнік**.

● Да выдзеленых слоў падбярыце словы — назвы прымет (вусна).

**33.** Прачытайце. Вызначце, якога роду назоўнікі *гусь, сабака, яблык, кацяня.*




Важная гусь, злы сабака, смачны яблык, маленькае кацяня.

● Перакладзіце на рускую мову назоўнікі *гусь, сабака, яблык*. Ці супадае род гэтых назоўнікаў у рускай і беларускай мовах?




**Запомніце!** У беларускай мове словы *сабака, яблык, медаль, шынель, пыл, боль* — гэта назоўнікі **мужчынскага роду.**

*Гусь* — назоўнік **жаночага роду.**

**34.** Прачытайце. Якія словы — назвы дзеянняў трэба ўставіць замест кропак?

1. **Вожык** *(што зрабіў? )* ... ў клубок. 2. **Ластаўка** *(што зрабіла? )* ... гняздо пад акном. 3. **Гусь** *(што рабіла? )* ... за сабой гусянят. 4. **Пыл** *(што рабіў? )* ... ў паветры.

Словы для даведкі: *зляпіла, вяла, клубіўся, згарнуўся.*

● Спішыце, устаўляючы патрэбныя словы — назвы дзеянняў. Абазначце род выдзеленых назоўнікаў.

**35.** Падбярыце па сэнсе да слоў — назваў прымет назоўнікі. Запішыце спалучэнні слоў, якія ў вас атрымаліся. Абазначце род назоўнікаў.

У з о р. *Белая кашуля* (ж. р.), *малады дубок* (м. р.), *цяжкае жыццё* (н. р.).

Працавітая ... , салдацкі ... , срэбны ... , малое ... , празрыстае ... , нясцерпны ... .

Словы для даведкі: *птушаня, боль, медаль, пчала, шынель, шкло.*

**36.** Да кожнага назоўніка падбярыце слова з супрацьлеглым значэннем. Запішыце. Вызначце род назоўнікаў.

Узор. *Смутак* (м. р.) — *радасць* (ж. р.).

Маладосць — ..., праўда — ..., цішыня — ..., спёка — ..., зіма — ..., дзень — ... .

**37.** Прачытайце верш. Растлумачце, чаму ён мае такі загаловак.

**Небыліца**

Сёння хмара ў хату ўбегла,
На засланы ложак легла,
Хлеб змахнула са стала,
Стол булёнам заліла,
На акно сыпнула смецце…
І зваліла ўсё на Пецю.

*У. Карызна*

*булён*

● Выпішыце з тэксту назоўнікі. Абазначце іх род. Раскажыце, як вы вызначалі род назоўнікаў.




Пры вызначэнні роду назоўніка змяняем яго так, каб замест назоўніка можна было падставіць словы ***ён, яна, яно***. Напрыклад: *на ваду — вада* (***яна***), значыць, гэта назоўнік жаночага роду; *ад берага — бераг* (***ён***), значыць, гэта назоўнік мужчынскага роду; *пад дрэвам — дрэва* (***яно***), значыць, гэта назоўнік ніякага роду.

**38.** Спішыце. Устаўце прапушчаныя літары. Абазначце род назоўнікаў.

Працаваць у аг..родзе, падысці да б..розы, глядзець на вобл..ка, купіць п..нал, дацягнуцца да **ябл..ка**, сябраваць з дз..ўчынкай, спрачацца з **дз..журным**, зрабіць у **с..раду**, сустрэцца ў ч..цвер ці ў н..дзелю.

- Растлумачце, чаму ў слове *агарод* на канцы трэба пісаць ***д***, а не ***т***.
- Складзіце сказы з выдзеленымі словамі (вусна).



**39.** Прачытайце. Выпішыце з тэксту спачатку назоўнікі жаночага роду, потым (паслядоўна) мужчынскага і ніякага роду.

Вакол ляснога азярца сабраўся выключна лісцёвы лес: асіна, чаромха, ясень, рабіна, бяроза. Дрэвы стаяць, пазіраюць у люстра вады і ціха радуюцца: колькі золата назапасілі!

Ноччу тут цішыня таксама. Хіба можа алень прывядзе да вады аленіху. Доўга яны будуць стаяць у месячным святле і слухаць, як ападае на ваду жоўты ліст.

*Я. Пархута*

- Знайдзіце ў тэксце аднакаранёвыя словы. Выпішыце іх парамі.

## Лік назоўнікаў

**40.** Прачытайце верш. Знайдзіце ў ім назоўнікі і пастаўце да іх пытанні.

**Неразлучныя сябры**

Дажджынка ўпала,
А за ёй другая
І кажа:
— Разам скоцімся з гары.
Зірнула сонца, і дажджынкі ззяюць.
Яны ўжо неразлучныя сябры.

*П. Прануза*

● Выпішыце назоўнікі, якія называюць не адзін, а некалькі прадметаў.

Назоўнікі могуць ужывацца ў **адзіночным** і **множным ліку.** У адзіночным ліку назоўнікі абазначаюць адзін прадмет, у множным ліку — некалькі прадметаў: *грыб — грыбы, птушка — птушкі.*

**41.** Запішыце назоўнікі ў два радкі.

1. Словы, якія абазначаюць адзін прадмет: ..., ..., ..., ... .

2. Словы, якія абазначаюць некалькі прадметаў: ..., ..., ..., ... .

Возера, цвікі, аловак, пялёстак, малюнкі, зоркі, мастак, справы, верабей, ластаўкі, кацяня, галінкі.

● Якія з запісаных вамі назоўнікаў спалучаюцца са словам *адзін*, а якія — са словам *адно*? Чаму?

**42.** Прачытайце. Знайдзіце ў тэксце назоўнікі. Вызначце іх лік.

**Прадвесне**

Знікнуць сумныя завеі.
Злягуць злыя маразы.
Цёплай ласкаю павее
На палеткі і лясы.

І каб весела над намі
Сонца сыпала красу,
Зазвініць жаўрук,
Ключамі адамкне вясну.

*М. Пазнякоў*

***пялёстак***

● Выпішыце з тэксту спачатку назоўнікі, якія аўтар ужывае ў адзіночным ліку, а потым — назоўнікі, якія аўтар ужывае ў множным ліку.

**43.** Змяніце словы па ўзоры і запішыце.

У з о р. *Кватэра — кватэры.*

Горад — ... .
Дрэва — ... .
Вожык — ... .
Сцежка — ... .

● Якія словы называюць адзін прадмет, а якія — некалькі?

Назоўнікі змяняюцца па **ліках:** *камар — камары, сасна — сосны, поле — палі.*

Пры змяненні назоўнікаў па ліках змяняюцца іх канчаткі.

**44.** Назоўнікі першага слупка пастаўце ў множным ліку. Да назоўнікаў другога слупка падбярыце адпаведныя назоўнікі адзіночнага ліку. Запішыце іх парамі па ўзоры.

У з о р. *Бераг* (адз. л.) — *берагі* (мн. л.).
*Сшыткі* (мн. л.) — *сшытак* (адз. л.).

Жолуд — ... .
Сяло — ... .
Сцяг — ... .
Лыжка — ... .

Кішэні — ... .
Таполі — ... .
Яблыкі — ... .
Туфлі — ... .

**45.** Прачытайце. Знайдзіце ў тэксце назоўнікі, якія ўжываюцца ў адзіночным ліку. Змяніце іх лік і запішыце парамі па ўзоры.

У з о р. *Вучань* (адз. л.) — *вучні* (мн. л.).

Набліжалася навальніца. Спалохана зашалясцела вяршаліна маладзенькай бярозкі. Птушкі схаваліся ў сваіх гнёздах, нібы шукаючы заступніка. Неўзабаве жыганула яркая, асляпляльная маланка. І адразу ж на палі і сады лінуў дождж.

*Паводле Я. Галубовіча*



**46.** Прачытайце.

Летняя раніца такая прыгожая! На лясной паляне блішчаць срабрыстыя кропелькі расы. Матылькі лятаюць. Гудуць пчолы і чмялі. Стракочуць у траве конікі. Цягнуцца да сонца блакітныя, чырвоныя, жоўтыя кветкі, дзякуюць за цеплыню і ласку, радуюцца новаму дню.

*У. Ліпскі*

- Спішыце. Падкрэсліце ў сказах назоўнікі, якія аўтар ужывае ў множным ліку (_____).

**47.** Прачытайце. Выпішыце з тэксту назоўнікі адзіночнага ліку (дзе неабходна, разам з прыназоўнікамі). Паспрабуйце ўтварыць ад іх назоўнікі множнага ліку. Ад якіх назоўнікаў вы не зможаце гэта зрабіць?

З-за лесу выкацілася вялікае ружовае сонца. Яно паціху плыло па чыстым блакіце неба, фарбуючы

верхавіны дрэў. Пахла вільгаццю, прэлай леташняй травою і гаркаватай карою клёнаў.

*Я. Галубовіч*




Некаторыя назоўнікі ўжываюцца толькі ў адзіночным ліку: *цукар, малако, вільгаць, гліна, поўнач, блакіт, кара*.

Некаторыя назоўнікі ўжываюцца толькі ў множным ліку: *граблі, санкі, дзверы*.

**48.** Прачытайце. Выпішыце назоўнікі, якія ўжываюцца толькі ў адзіночным ліку. Вызначце іх род.

Кефір, відэлец, мука́, чысціня, выдатнік, крэсла, святло, гліна, поўдзень, смецце, цацка, хваля.

**49.** Прачытайце. Выпішыце назоўнікі, якія ўжываюцца толькі ў множным ліку.

Акуляры, палосы, ліхтары, штаны, вілы, дарогі, вароты, нажніцы, канікулы, галасы, рукавіцы.

● Да назоўнікаў, якія вы не выпісалі, падбярыце адпаведныя назоўнікі адзіночнага ліку (вусна).

**50.** Прачытайце тэкст, ужываючы словы, якія падыходзяць па сэнсе.

У лесе ёсць адна прыгожая (палянка, палянкі). Улетку на ёй цвітуць (кветка, кветкі). Над кветкамі

лётаюць жоўтыя, белыя, карычневыя, аранжавыя (матылёк, матылькі).

Пасярод палянкі стаіць невысокі бярозавы (пянёк, пянькі). Пад пяньком можна ўбачыць маленькую норку. У гэтай норцы жыве лясная (мышка, мышкі).

*З. Бяспалы*

● Спішыце тэкст. Якія словы вы выбралі? Чаму?

**51.** Прачытайце. Выпішыце з верша назвы ягад. Вызначце іх лік. Ці ўжываюцца ў мове гэтыя словы ў адзіночным ліку?

З мамай я збіраў суніцы,  
А з бабуляю — чарніцы,  
Ездзіў з татам у маліны,  
А з дзядулем — у ажыны.

А сягоння мы з сястрыцай  
Пойдзем разам у брусніцы.  
З кожнай, кожнай ягадай  
Павітацца рады я.

*М. Пазнякоў*

● Перакладзіце выпісаныя вамі словы на рускую мову. У якім ліку ўжываюцца яны ў рускай мове?

● Перакладзіце на рускую мову сказы.

1. З мамай я збіраў суніцы.
2. А сягоння мы з сястрыцай пойдзем разам у брусніцы.



**52.** Прачытайце, устаўляючы ў сказы прапушчаныя словы. Змяніце іх, калі патрэбна па сэнсе.

Вясна прыйшла з ... і цяплом. ... апранулі сарафаны з лісця. З выраю вярнуліся ўсе ... . Шматгалосы птушыны ... не змаўкае ні на хвіліну. Лес звініць ад радасных вясновых ... .

Словы для даведкі: *песня, сонца, хор, дрэва, птушкі*.

● Спішыце тэкст. Падкрэсліце ў ім назоўнікі, якія ў сказах з'яўляюцца дзейнікамі (_____). Вызначце іх род і лік (вусна).

## ШТО МЫ ВЕДАЕМ?

**1.** Што абазначае назоўнік?

**2.** Якія назоўнікі адказваюць на пытанне ***хто?***, а якія — на пытанне ***што?***

**3.** Як змяняюцца назоўнікі ў сказах? Што трэба зрабіць, каб змяніць назоўнік?

**4.** Якімі членамі сказа могуць быць назоўнікі?

**5.** Якога роду бываюць назоўнікі? Як вызначаецца род назоўніка?

**6.** Як назоўнікі змяняюцца па ліках?

# ПРЫМЕТНІК

**53.** Прачытайце. Звярніце ўвагу на выдзеленыя словы. Што яны абазначаюць?

**Цёплае сакавіцкае** сонца добра прагрэла зямлю. Дзе-нідзе ўжо паказалася **маладая** трава, выкінула коцікі вярба, а з арэшніку пачаў асыпацца **жоўты** пылок.

*Я. Галубовіч*

● Выпішыце словы — назвы прымет. Якія пытанні можна да іх паставіць?

Словы — назвы прымет *(моцны, чысты, дробны, спартыўны...)* — гэта **прыметнікі.** Яны адказваюць на пытанні: ***які? якая? якое? якія?***

**54.** Адкажыце (вусна) на пытанні.

1. Які бывае ранец?
2. Якая бывае зорка?
3. Якое бывае неба?
4. Якія бываюць кветкі?

Словы для даведкі: *блакітнае, далёкая, духмяныя, цяжкі, яркая, новы, хмарнае, росныя.*

**55.** Прачытайце прыметнікі. З якімі назоўнікамі іх можна спалучыць?

Хітры, цёплае, паўночны, мілагучная, прыгожыя.

Словы для даведкі: *мова, вецер, кветкі, паліто, барсук.*

● Запішыце спалучэнні слоў, якія ў вас атрымаліся, па ўзоры.

Узор. *Ноч* (якая?) *зорная.*

**56.** Прачытайце загадкі і адгадайце іх.

1. Хвост пушысты, кажух залацісты, хітрай называюць, курэй ад яе хаваюць.
2. Улетку шэры, узімку белы, доўгія вушы мае, хутка ў лес уцякае.
3. Маленькае, залаценькае, а ўсё поле асвятляе.



● Назавіце прыметнікі, якія дапамаглі вам адгадаць загадкі.




Прыметнікі часта дапамагаюць параўноўваць прадметы. Напрыклад: *мураш маленькі, а слон вялікі.*

**57.** Прачытайце. Паспрабуйце самі параўнаць прадметы. Спішыце, устаўляючы патрэбныя прыметнікі.

1. Ручай вузкі, а рака … . 2. Перац горкі, а цукерка … . 3. Лета гарачае, а зіма … . 4. Снег белы, а вугаль … .

**58.** Прачытайце. Знайдзіце прыметнікі. Пастаўце да іх пытанні.

Яркае веснавое сонейка бесклапотна купаецца ў празрыстай лужыне на ўзлессі. Ціха плёскаецца і рассыпае ва ўсе бакі залатыя пырскі промняў.

Неўзабаве ў лужыну ўпала сухая сасновая шышка і разбіла ў ёй на дробныя кавалачкі жоўты адбітак сонца.

*Р. Ігнаценка*

- Выпішыце прыметнікі разам з назоўнікамі, якія яны характарызуюць.

**59.** Гульня «Які? Якая? Якое? Якія?». Адзін вучань называе любы прадмет. Другі павінен сказаць, якім можа быць гэты прадмет. Затым вучні мяняюцца ролямі. Перамагае той, хто назаве больш прымет аднаго прадмета.

Узор. 1. *Аловак*. 2. *Зялёны, кароткі, востры* … .



**60.** Прачытайце. Якіх слоў не хапае ў сказах?

1. Пчала збірае … нектар.
2. Загадкава шамаціць … асінка.
3. … сонейка раптоўна схавалася за хмару.
4. Закружыліся ў паветры … лісцікі.

Словы для даведкі: *жоўтыя, духмяны, ласкавае, тонкая.*

● Дапоўніце сказы прыметнікамі і запішыце ў сшытак па ўзоры.



У з о р. *Цягнуліся ў неба высокія хвоі.*

**61.** Прачытайце тэкст. Вызначце, пра што ідзе ў ім гаворка.

З-за лесу выкаціўся **шар.** Нарэшце пасля **навальніцы** будзе сонейка. **Раса** заіскрылася **ў промнях.** З узыходам сонца адразу пацяплела.

● Ці падабаецца вам гэта апісанне? Слоў якой часціны мовы ў ім не хапае?
● Дапоўніце тэкст прыметнікамі. Падбярыце іх да выдзеленых назоўнікаў.
● Выпраўлены вамі тэкст запішыце.

Словы для даведкі: *залацісты, сонечных, буйная, моцнай.*



Прыметнікі ў мове абазначаюць якасці і прыметы прадметаў. Тэкст можа існаваць без прыметнікаў, але з прыметнікамі ён становіцца больш дакладным і выразным.




**62.** Прачытайце. Запішыце прыметнікі ў наступным парадку.

Якасць: *смелы*, ... .

Смак: *кіслы*, ... .

Колер: *сіні*, ... .

Форма і памер: *круглы*, ... .

Матэрыял, з якога зроблены прадмет: *палатняны*, ... .

*асцяро́жны*

Шырокі, храбры, баваўняны, чырвоны, салодкі, хітры, асцярожны, вузкі, карычневы, салёны, доўгі, шаўковы, фіялетавы, фарфоравы, дубовы, шкляны.

● Якія прадметы можна апісаць з дапамогай гэтых прыметнікаў?

**63.** Прачытайце. Знайдзіце ў тэксце прыметнікі. Якія прыметы прадметаў апісвае з іх дапамогай аўтар?



### Рамонак

Жыла-была на свеце кветачка. **Пялёсткі былі ў яе беленькія, светленькія, як шары. Сцяблінка — тоненькая, стройная, як ножка балерыны. Лісцікі ласкавыя, пяшчотныя.** А сярэдзінка кветачкі напамінала сонейка. Гэта быў рамонак.

*К. Кейна*

- Пастаўце пытанні да сказаў, якія выдзелены ў тэксце. Адказы на пытанні запішыце.
- Знайдзіце ў тэксце словы з памяншальна-ласкальнымі суфіксамі. Якімі часцінамі мовы з'яўляюцца гэтыя словы?

**64.** Апішыце кветку, якая падабаецца вам больш за іншыя. Складзены тэкст запішыце. Падкрэсліце ў ім прыметнікі (〰〰).

**65.** Прачытайце тэксты. Што гавораць аўтары пра характары звяроў? Словы якой часціны мовы выкарыстоўваюць пры гэтым?

I. Усе кажуць, што зайцы палахлівыя. Магчыма, і такія трапляюцца. А на самай справе яны асцярожныя і пільныя.

*З. Бяспалы*

II. Сярод лясных жыхароў барсук — самы дбайны і ахайны гаспадар. Перад лазам у барсукова жытло заўсёды чыста, нібы падмецена.

*У. Ягоўдзік*



*Дба́йны* — старанны, клапатлівы.
*Аха́йны* — які любіць парадак, акуратны.

● Адкажыце на пытанні да тэкстаў. Адказы запішыце.

1. Што кажуць пра зайцоў? Якія яны на самай справе?
2. Чым выдзяляецца барсук сярод лясных жыхароў?

**66.** Прачытайце. Знайдзіце ў тэксце прыметнікі. Як выкарыстоўвае іх аўтар пры апісанні зімы?

Разляглася ў полі зіма, распусціла сівыя космы.

Служаць зіме верныя слугі — калючы вецер ды пякучы мароз.

Калючы вецер лісце з дрэў абтрос, траву ў полі высушыў. А пякучы мароз нячутна скаваў зямлю і рэчкі лядовымі аковамі.

*А. Асіпенка*

● Спішыце апошнія два сказы. У кожным сказе падкрэсліце дзейнік (______), выказнік (═══). Сярод якіх членаў сказа апынуліся прыметнікі?

*нячу́тна*



**67.** Прачытайце тэкст. Якімі прыметнікамі трэба дапоўніць апошні сказ, каб сказаць пра кожнага са зверанят нешта сваё, асаблівае?

Маленькіх зверанят гадавалі ў заапарку разам. На вялікай пляцоўцы яны бегалі адно за адным, дурэлі, забаўляліся. Каго толькі тут не было! І ..., ... медзведзяняты, і ..., ..., з вострымі мордачкамі лісяняткі, і ..., ... ваўчаняты.

● Падбярыце прыметнікі, патрэбныя для апісання зверанят, і запішыце апошнія два сказы.

Словы для даведкі: *хітрыя, злыя, непаваротлівыя, калматыя, непаседлівыя, асцярожныя.*



## Змяненне прыметнікаў па родах

**68.** Разгледзьце ўважліва малюнкі. Раскажыце, што вы бачыце на іх.




- Падумайце і адкажыце на пытанні.

1. Чаму каля тлумачальнага слоўніка прыметнікі адны? А ў кнізе вясёлых казак яны аказваюцца разам з назоўнікамі?

2. Ці здолелі б прыметнікі трапіць у кнігу казак без дапамогі назоўнікаў?




Прыметнік — вечны спадарожнік назоўніка. Яны як нітка з іголкай: куды назоўнік, туды і прыметнік. І ў сказе, і ў тэксце прыметнік звычайна звязаны з назоўнікам:

*сухі лісток* (які?), *шырокая рака* (якая?), *блакітнае неба* (якое?), *кіслыя журавіны* (якія?).

**69.** Дапамажыце словам-сябрам адшукаць адно аднаго. З дадзеных назоўнікаў і прыметнікаў складзіце спалучэнні слоў і запішыце іх. Вызначце род назоўнікаў. Абазначце канчаткі прыметнікаў.

які?

У з о р. *Цёмн*[*ы*] *лес* (м. р.).

Верны, зайка, шкло, ласяня, празрыстае, сонейка, палахлівае, сябар, ласкавае, сінічка, хітрая, плюшавы.

● Звярніце ўвагу на тое, якія канчаткі маюць прыметнікі пры назоўніках мужчынскага, жаночага, ніякага роду.

Прыметнік змяняецца разам з назоўнікам: які род у назоўніка, такі ж род і ў прыметніка. Напрыклад: *новы дзень* (м. р.), *новая сукенка* (ж. р.), *новае вядро* (н. р.).

Прыметнікі мужчынскага роду маюць канчаткі ***-ы, -і***, жаночага — ***-ая, -яя***, ніякага — ***-ае, -ое, -яе***.

**70.** Прачытайце. Пастаўце прыметнікі ў патрэбным родзе.

(Вольны) краіна, (спелы) жыта, (цёмны) хмара, (ясны) месяц, (мяккі) крэсла, (новы) канапа, (пісьмовы) стол, (малы) лісяня, (новы) чэмпіён.

● Запішыце спалучэнні слоў у тры радкі.
1. З назоўнікамі мужчынскага роду — ..., ..., ... .
2. З назоўнікамі жаночага роду — ..., ..., ... .
3. З назоўнікамі ніякага роду — ..., ..., ... .

**71.** Прачытайце.

Рыжы ранак надыходзіць,
Сонца рыжае ўстае
І далонню рыжай водзіць
Па зрыжэлай скрозь траве.

*П. Саковіч*

● Выпішыце з верша прыметнікі разам са словамі, ад якіх яны залежаць. Да прыметнікаў пастаўце пытанні. Абазначце іх канчаткі і род.

якое?

У з о р. *Свеж*|*ае*| (н. р.) *паветра*.

**72.** Прачытайце загадкі. Адгадайце іх.



I. Сінявокі, слаўны, чысты,
Галавасты, залацісты.
Апранае нас здавён.
Здагадайцеся, хто ён?

II. Маленькае, залаценькае,
А ўсё поле асвятляе.

● Запішыце ў сшытак словы-адгадкі разам з прыметнікамі, якія іх характарызуюць. Вызначце род прыметнікаў.

**73.** Запішыце па два назоўнікі мужчынскага, жаночага і ніякага роду. Да кожнага з іх дапішыце некалькі прыметнікаў.

У з о р. *Камень* (м. р.) — *вялікі, шэры, цяжкі*.



**74.** Дапішыце канчаткі прыметнікаў, абазначце іх род.

Ярк.. сонца, густ.. туман, лёгк.. ветрык, сярдзіт.. завіруха, вячэрн.. зорка, сух.. надвор'е, вушаст.. зайчык, кісл.. малако, вялік.. літара.

● Растлумачце значэнне прыметнікаў у спалучэннях са словамі *ветрык* і *завіруха*. Падбярыце сінонімы да гэтых прыметнікаў.

## Змяненне прыметнікаў па ліках

**75.** Запішыце наступныя словазлучэнні па ўзоры.

У з о р. *Нов*[*ы*] *дом* — *нов*[*ыя*] *дамы*.

Чырвоны памідор — ... ... .
Лясная паляна — ... ... .
Свежае яйка — ... ... .

● Звярніце ўвагу на канчаткі прыметнікаў. Паспрабуйце растлумачыць, чаму канчаткі прыметнікаў сталі іншымі.

Прыметнік разам з назоўнікам змяняецца па **ліках**. Прыметнік мае той самы лік, што і назоўнік, з якім прыметнік звязаны: *цікав*[*ая*] *нов*[*ая*] *кніга* — ***адзіночны лік***, *цікав*[*ыя*] *нов*[*ыя*] *кнігі* — ***множны лік***.

Прыметнікі ў множным ліку маюць канчаткі ***-ыя, -ія***.

**76.** Далучыце прыметнікі да назоўнікаў. Змяніце, дзе трэба, род і лік прыметнікаў і абазначце канчаткі.

У з о р. *Свеж[ы] хлеб.*

Свежы (хлеб, газета, паветра).
Залаты (медаль, рукі, дзяўчынка).
Рэдкі (дождж, сетка, выпадкі).

● Якія сінонімы можна падабраць да прыметніка *залаты* ў словазлучэннях, якія ў вас атрымаліся?

**77.** Прачытайце. Пастаўце назоўнікі разам з прыметнікамі ў множным ліку. Запішыце, абазначце канчаткі прыметнікаў.

Зялёнае поле, глыбокая рака, высокі бераг, зімняя дарога, жоўты лімон, ласкавае сонейка.

● У запісаных вамі спалучэннях слоў паспрабуйце вызначыць род прыметнікаў.




**Звярніце ўвагу!** Канчаткі прыметнікаў усіх трох родаў у множным ліку аднолькавыя: *шырок[і] калідор — шырок[ія] калідоры, шырок[ая] дарога — шырок[ія] дарогі, шырок[ае] поле — шырок[ія] палі*. Таму род прыметнікаў вызначаецца толькі ў адзіночным ліку.

**78.** Дапішыце канчаткі прыметнікаў. У якіх спалучэннях слоў прыметнікі будуць мець розныя канчаткі? Растлумачце чаму.

Звонк.. голас — звонк.. раніца.
Салодк.. кава — салодк.. сон.
Кучарав.. валасы — кучарав.. ліпы.

● Вусна складзіце два сказы з любымі спалучэннямі слоў.

**79.** Прачытайце.

Шчупак — рыба драпежная. Мае доўгі стан, шырокія хваставыя плаўнікі, прадаўгаваты рот. Частыя і вострыя ў шчупакоў зубы. Ніякая здабыча вырвацца з іх не можа.



У шчупака вялікія цёмныя зоркія вочы. Здалёк бачыць ён сваю здабычу. Бруха мае белае. Плаўнікі — зеленавата-шэрыя.

*В. Мысłівец*

● Выпішыце з тэксту спачатку спалучэнні прыметнікаў з назоўнікамі ў адзіночным ліку, затым — спалучэнні прыметнікаў з назоўнікамі ў множным ліку. Абазначце канчаткі прыметнікаў.



**80.** Прачытайце сказы. Замяніце адзіночны лік назоўнікаў з прыметнікамі на множны па ўзоры.

У з о р. *Гарадская ластаўка гняздо сабе лепіць з камячкоў гліны. — Гарадскія ластаўкі гнёзды сабе лепяць з камячкоў гліны.*

1. Малады механізатар старанна працуе на камбайне.
2. Жоўты матылёк праляцеў нізка над кветкай.
3. Малое цялятка ўпершыню засталося адно ў полі.

- Запішыце атрыманыя сказы.

## Граматычная сувязь прыметніка з назоўнікам

**81.** Прачытайце. Знайдзіце ў тэксце прыметнікі і назоўнікі, з якімі гэтыя прыметнікі звязаны.

Пасля нядоўгай вясенняй ночы на ўсходзе пасвятлела неба. Па зялёнай траве прабег свежы ветрык. Высока ў блакітным небе разлілася звонкая песня жаваранка. І раптам з-за далёкага лесу выглянула сонца.

*Паводле А. Асіпенкі*

- Выпішыце з тэксту прыметнікі разам з назоўнікамі. Пастаўце пытанні да прыметнікаў. Абазначце іх канчаткі.

У з о р. *Ночы* (якой?) *нядоўг* [*ай*] *вясенн* [*яй*].

- Падумайце, чаму прыметнікі ў сказах маюць розныя канчаткі і адказваюць на розныя пытанні.

**У сказе прыметнік змяняецца разам з назоўнікам.**

**82.** Устаўце ў сказы прыметнік *сухі*, змяняючы яго так, як патрабуе гэтага назоўнік *лісток*.

Яшчэ з восені на галінцы дуба застаўся *(які?)* … лісток. Як ні стараўся злосны вецер, але *(якога?)* … лістка ад галінкі адарваць не змог. Прыйшлося *(якому?)* … лістку ўсю зіму цярпець сцюжу і холад.

У сакавіку сонца прыгрэла і галінку, і *(які?)* … лісток. І пад *(якім?)* … лістком на галінцы прачнулася клейкая пупышка. Хутка з яе вырасце новы лісток. І аб *(якім?)* … лістку ўсе забудуць.



*Пупы́шка* — рус. *почка на ветке дерева.*

● Выпішыце з тэксту спалучэнні слоў з прыметнікам *сухі* і назоўнікам *лісток*. Абазначце канчаткі прыметніка.

Узор. *Лісток* (які?) *сух*[*і*].

**83.** Змяніце прыметнікі разам з назоўнікамі па пытаннях. Запішыце. Абазначце канчаткі прыметнікаў.

якая? *зялён*[*ая*] *трава*
ад якой? …
па якой? …
якую? …
над якой? …
аб якой? …

якое? *шчыр*[*ае*] *слова*
якога? …
якому? …
на якое? …
над якім? …
аб якім? …

**84.** Прачытайце, змяняючы прыметнікі так, як патрабуюць назоўнікі, з якімі гэтыя прыметнікі звязаны.

Звіняць ручайкі ў (вячэрняя) цішыні. Кажуць, гэта вясна бразгае (сярэбраны) ключамі, адмыкае дзверы (цёплы) вятрам. Ляцяць вятры з (далёкі) поўдня і нясуць з сабой (неўгамонная веснавая) сілу. Скараецца перад ёю зіма, адступае на поўнач. А наўздагон ёй імчыцца (пяшчотны) звон ручайкоў, спевы птушак, шэлест травы.

*Т. Хадкевіч*

- Спішыце тэкст. Падкрэсліце прыметнікі як дадзеныя члены сказа (~~~~~).
- Растлумачце правапіс выдзеленых літар (вусна).



**85.** Прачытайце. Знайдзіце і выпішыце прыметнікі разам з назоўнікамі. Пастаўце пытанні да прыметнікаў. Абазначце канчаткі прыметнікаў і назоўнікаў.

якія?

У з о р. *У празрыст*[*ыя*] *выс*[*і*].

Скончылася летняя спёка. У ціхі адвячорак плывуць па блакітным небе вераснёвыя аблокі. Сытыя дрэвы калышуць лістотай. Прайшоў ужо час імклівага росту. З лесу патыхае сырой травой. Зямля рыхтуецца аддаць усе свае багацці і заслужана адпачыць.

*В. Жукроўскі*

## ШТО МЫ ВЕДАЕМ?

1. Якая часціна мовы называецца прыметнікам?

2. Дакажыце, што «прыметнік — верны спадарожнік назоўніка».

3. Як выкарыстоўваюцца прыметнікі ў тэксце? Ці згодны вы з тым, што прыметнік — «акраса» тэксту?

4. Як змяняюцца прыметнікі ў сказах?

5. Якія канчаткі маюць прыметнікі мужчынскага, жаночага і ніякага роду? Прывядзіце прыклады.

6. Якія канчаткі маюць прыметнікі ў множным ліку?

## ДЗЕЯСЛОЎ

**86.** Адкажыце на пытанні (вусна).

1. Што можна рабіць пасля ўрокаў?
2. Што можна зрабіць з яблыкам?

- Якія словы дапамаглі вам адказаць на пытанні?

Словы — назвы дзеянняў *(гарэць, запісаць, жартаваць)* — гэта **дзеясловы**. Яны адказваюць на пытанні: ***што робіць? што зробіць? што рабіў? што зрабіў? што будзе рабіць? што зробіць?***

**87.** Разгледзьце ўважліва малюнкі. Назавіце і запішыце, хто што робіць.



**88.** Прачытайце. Раскажыце, хто якія дзеянні павінен выконваць.




### Пераблытанка

Гэта шэранькая качка
Дрэмле ў будцы на баку.
Белалобы наш сабачка
Ловіць рыбку на стаўку.
На вароты ўзлез акунь,
Закрычаў: — Ку-ка-рэ-ку!
Гэта пеўніка злавілі
Замест рыбкі на стаўку.

*Д. Бічэль-Загнетава*



*Ставо́к* — невялікі вадаём.

**89.** Што могуць рабіць наступныя прадметы?

Птушка, мора, сонца, месяц, бярозка, час, пчала.

- Выкарыстайце словы для даведкі і запішыце па ўзоры.

Узор. *Мячык скача.*

Словы для даведкі: *свеціць, грэе, шуміць, расце, смяецца, ідзе, спявае, джаліць.*

*джáліць*

**90.** Прачытайце. Якія дзеясловы трэба ўставіць замест кропак?

Цёплая ноч *(што зрабіла?)* ... лес. Дрэвы і кусты *(што зрабілі?)* ... ў цемры.

Але вось у лесе *(што робяць?)* ... сінявокія агеньчыкі. Яны *(што робяць?)* ... на травінках, нібы зоркі *(што робяць?)* ... пры дарозе.

Словы для даведкі: *агарнула, зніклі, загараюцца, вісяць, свецяцца.*

- Спішыце, устаўляючы патрэбныя дзеясловы.

**91.** Ці трэба выклікаць пажарных, калі *палыхае неба, гарыць пуцёўка, успыхвае спрэчка, згараюць ад сораму*? Як вы разумееце сэнс гэтых выразаў? У якім значэнні (прамым ці пераносным) выкарыстаны ў іх дзеясловы?

**92.** Прачытайце. Якія з выдзеленых слоў называюць прадметы, а якія — дзеянні? Як вы гэта вызначылі?

1. Зорка ярка **свяціла** на небе. З-за хмаркі выглянуў месяц — наша начное **свяціла**.
2. Мама **шыла** сукенку. **Шыла** ў мяшку не схаваеш.
3. У веснавую ноч можна пачуць **спеў** салаўя. На градцы **спеў** вялікі гарбуз.




У мове ёсць словы, аднолькавыя па гучанні, але розныя па значэнні. Сустракаюцца яны і сярод розных часцін мовы. І трэба быць вельмі ўважлівым да сэнсу сказа, каб не пераблытаць, напрыклад, дзеяслоў з назоўнікам.

**93.** Разгледзьце малюнкі. Складзіце да іх сказы, каб у адным слова было назоўнікам, а ў другім — дзеясловам.



- Запішыце прыдуманыя сказы. Ролю якіх членаў сказа выконваюць у іх назоўнікі *мыла* і *піла* і дзеясловы *мыла* і *піла*?



**94.** Прачытайце. Да выдзеленых назоўнікаў і дзеясловаў пастаўце пытанні і запішыце па ўзоры.

Узор. (Што?) *лес* (што рабіў?) *звінеў птушынымі галасамі.*

1. **Матылёк сеў** на блакітную кветачку.
2. З самай раніцы **дзед касіў** лужок.
3. **Птушкі адлятаюць** у вырай.
4. **Грыб лезе** з моху.

**95.** Прачытайце. Вызначце, колькі ў вершы сказаў. У кожным сказе знайдзіце галоўныя члены. Якімі часцінамі мовы яны з'яўляюцца?

Спявае лета над барамі.
Сасонкі струнамі звіняць.
Гамоніць поле каласамі.
Шапоча ў кветках сенажаць.

*П. Броўка*

• Спішыце першыя два сказы. Абазначце ў сказах галоўныя члены сказа: дзейнікі (______), выказнікі (══════).

**У сказе дзеясловы часцей за ўсё бываюць выказнікамі.**

**96.** Прачытайце. З кожнага сказа выпішыце дзейнік і выказнік. Падкрэсліце іх.

Смяецца ў небе **ласкавае** сонейка. Прамяні яго лічаць на стрэхах **ледзяшы**. Снег каля дарогі ўжо пацямнеў і асеў.

*В. Кастручын*

● Пастаўце пытанні да выдзеленых слоў. Вызначце, якімі членамі сказа яны з'яўляюцца.

**97.** Прачытайце.

Зноў зіму праганяе вясна.
Зноў жаўрук яе ў полі вітае.
Зашумела над кручай сасна.
Пры дарозе вярба расцвітае.

Хутка сонца засвеціць ясней.
Хутка май упрыгожыць паляны.
І зашэпчуць лясы аб вясне,
Зелянінаю лісцяў прыбраны.

*А. Куляшоў*

● Выпішыце дзеясловы разам з назоўнікамі, да якіх яны адносяцца. Да дзеясловаў пастаўце пытанні.

У з о р. *Зоркі* (што робяць?) *свецяць*.

● Падумайце, ці мог бы аўтар стварыць гэты тэкст без дзеясловаў.




Дзеясловы ў мове абазначаюць дзеянні. Дзякуючы дзеясловам мы заўсёды можам ці проста апісаць дзеянні розных прадметаў, ці расказаць пра падзеі, якія з імі адбываюцца.

**98.** Разгледзьце ўважліва малюнкі. Адкажыце на пытанні да іх. Адказы запішыце.





1. Што робіць голуб на дарожцы ў садзе?
2. Што робіць там у гэты ж час кот Цімох?
3. Чаму ўзляцеў голуб?
4. Чым скончылася паляванне ката Цімоха?

**99.** Прачытайце, змяняючы дзеясловы, як патрабуе сэнс сказаў. Спішыце тэкст, раскрываючы дужкі.

Вы хоць раз (бачыць) касцёр? Над вогнішчам (узвівацца) рой залатых іскрынак. Яны ціха (кружыцца) і (знікаць) у чорным небе. Як прыгожа!

- Падумайце, як гэты тэкст можна прадоўжыць.

**100.** Прачытайце. Якую часціну мовы прапусціў аўтар? Пра якую пару года гаворыцца ў тэксце?

Вакол ... густы мядовы водар. У кронах дрэў з ранку да вечара ... пчолы. У садах ... белы наліў, ... сокам антонаўкі. Ад духмянага паху яблыкаў аж ... галава.

● Спішыце, устаўляючы ў тэкст патрэбныя дзеясловы. Вусна пастаўце да іх пытанні.

Словы для даведкі: *кружыцца, наліваюцца, даспявае, працуюць, сцелецца.*

● Як «працуюць» дзеясловы ў гэтым тэксце — расказваюць пра падзеі ці апісваюць дзеянні прадметаў?

**101.** Прачытайце. Як аўтар малюе прыход вясны. Якія словы і выразы ўжывае ён для стварэння паэтычных вобразаў? Ці ёсць сярод гэтых слоў дзеясловы?

Пад белым ветразем аблокаў
Вясна ў мой завітала край,
Бярозам прыбаўляе соку
І засяляе птаствам гай.
У залатой кароне сонца
Хадою лёгкаю ідзе.
Снег, што ляжаў нядаўна сонна,
Спявае ў ручаях, гудзе.

*П. Пранузa*

● Выпішыце з верша дзеясловы, якія абазначаюць дзеянні вясны, сонца, снегу.

У з о р. *Вясна* (што зрабіла?) *завітала*, (што робіць?) ..., ... .



**102.** Прачытайце. Якія дзеясловы трэба ўставіць замест кропак?

Тонкія струны сонечных промняў *(што робяць?)* ... бор. І адразу мокрае лісце *(што зрабіла?)* ... яркай чыстай зелянінай. Шматлікае ляснное птаства *(што зрабіла?)* ... са сваіх схованак. Лес *(што зрабіў?)* ... птушынымі галасамі.

*Р. Ігнаценка*

Словы для даведкі: *пранізваюць, зазіхацела, выбралася, напоўніўся.*

● Спішыце, устаўляючы патрэбныя дзеясловы. Падкрэсліце іх як члены сказа (══).

● Падрыхтуйцеся да вуснага адказу на пытанне *Што я ведаю пра дзеяслоў?*

## Цяперашні, прошлы, будучы час дзеяслова

**103.** Прачытайце. Знайдзіце ў тэксце дзеясловы. Якія дзеянні яны абазначаюць: якія ўжо адбыліся, якія адбываюцца цяпер, якія яшчэ адбудуцца?

**Чамадан**

Вандраваў па родным краі
І лятаў за акіян,
А цяпер адпачывае
Дома татаў чамадан.

Стракацяць на ім наклейкі,
Як у казку — забягай:
Пальмы, мора, горад нейкі
І вясёлы папугай.

Пасябрую з чамаданам,
І дарогаю адной
Будзе ён за акіянам
Вандраваць пасля са мной.

*М. Маляўка*

● Выпішыце з тэксту дзеясловы, размеркаваўшы іх па групах:

1. Дзеянне ўжо адбывалася: ..., ... .
2. Дзеянне адбываецца цяпер: ..., ... .
3. Дзеянне яшчэ адбудзецца (ці будзе адбывацца): ..., ... .

На якія пытанні адказваюць дзеясловы кожнай групы?

Дзеяслоў змяняецца па часах. Ён мае цяперашні, прошлы і будучы час. Дзеясловы **цяперашняга часу** адказваюць на пытанні *што робіць? што робяць?*; **прошлага часу** — *што рабіў? што зрабіў? што рабілі? што зрабілі?*; **будучага часу** — *што зробіць? што зробяць? што будзе рабіць? што будуць рабіць?*




**104.** Запішыце дзеясловы ў прошлым, цяперашнім і будучым часе. Пастаўце да дзеясловаў пытанні (вусна).

Узор. *Ехаць — ехаў, едзе, будзе ехаць.*
*Прыехаць — прыехаў, прыедзе.*

Карміць, пакарміць, купляць, купіць, шукаць, знайсці, плесці, выплесці, несці, аднесці.

● Пастаўце націск у дзеясловах цяперашняга і будучага часу.

**105.** Змяніце дзеясловы па пытаннях і запішыце.

| **што рабіў?** | **што робіць?** | **што будзе рабіць?** |
|---|---|---|
| абедаў | абедае | будзе абедаць |
| ствараў | ... | ... |
| вёз | ... | ... |

| **што зрабіў?** | **што зробіць?** |
|---|---|
| паабедаў | паабедае |
| стварыў | ... |
| прывёз | ... |

● У якім часе адбываюцца дзеянні, калі дзеясловы адказваюць на пытанні:

а) што рабіў? што зрабіў?

б) што робіць?

в) што зробіць? што будзе рабіць?




Каб лягчэй было змяняць дзеясловы, карыстайцеся наступнай табліцай.

| | | |
|---|---|---|
| Прошлы час | (што рабіў?)<br>(што зрабіў?) | *падарожнічаў*<br>*вырас* |
| Цяперашні час | (што раблю?) | *падарожнічаю* |
| Будучы час | (што буду рабіць?)<br>(што зраблю?) | *буду падарожнічаць*<br>*вырасту* |

**106.** Прачытайце. У які час (цяперашні, прошлы ці будучы) адбываюцца гэтыя падзеі?

Раніцай у лесе кукуе зязюля.
Бор шуміць вершалінамі хвой.

● Змяніце дзеясловы так, каб яны азначалі: а) дзеянні, якія ўжо адбыліся; б) дзеянні, якія яшчэ будуць адбывацца.

**107.** Прачытайце. Знайдзіце ў тэксце дзеясловы. Пастаўце да іх пытанні і вызначце час.

### Кураняткі

Знайшлі кураняткі
Чатыры зярняткі.
У бойцы ляцелі
І пер'е, і пух.

Бо два кураняткі
Чатыры зярняткі
Ніяк не падзеляць
Пароўну, на двух.

Слабелі, ды біліся
Два кураняткі,
Пакуль не згубіліся
Недзе зярняткі.

*У. Немізанскі*





● Спішыце першыя два сказы. Падкрэсліце ў іх дзеясловы (══════). Якім членам сказа яны з'яўляюцца?

**108.** Разгледзьце малюнак. Падкажыце хлопчыкам, якія пытанні прывядуць іх у мінулае, у цяперашні час і ў будучы.




- Закончыце сказ і запішыце яго.

Дзеясловы ў цяперашнім часе адказваюць на пытанні ...? ...?; у прошлым — ...? ...? ...? ...?; у будучым — ...? ...? ...? ...?



**109.** Прачытайце. Знайдзіце і выпішыце дзеясловы. Пастаўце да іх пытанні. Абазначце час.

У з о р. (Што зрабіў?) *убачыў* (пр. ч.).



Ляжаў у баразне Гарбуз. Нацягнуў ад сонца картуз, ляжыць — не дзьме ў вус. Сонейка прыпякае, а ён вакол пазірае ды ад ляноты пазяхае. Замлеюць бакі ад лёжкі — ён паварушыцца трошкі, павернецца на бачок спелы, каб лянота зусім не заела.

*А. Зэкаў*

**110.** Параўнайце дзеясловы ў парах. Што ў іх агульнае і чым яны адрозніваюцца адзін ад аднаго?

Будзе пісаць — напіша;
**будзе чытаць — прачытае;**
будзе будаваць — пабудуе.

Пісаў — напісаў;
**чытаў — прачытаў;**
будаваў — пабудаваў.

● Запішыце сказы, устаўляючы замест кропак адзін з выдзеленых дзеясловаў.

Гэта было ўчора: Мікола ... цікавую кніжку пра падарожнікаў.

Мікола ... цікавую кніжку пра падарожнікаў.

Гэта будзе заўтра: Мікола ... цікавую кніжку пра падарожнікаў.

Мікола ... цікавую кніжку пра падарожнікаў.

● Параўнайце запісаныя вамі сказы. Ці аднолькавы сэнс яны маюць?

**111.** Які дзеяслоў (*чытае* ці *прачытае*) вы ўставіце ў сказ *Мікола ... цікавую кніжку пра падарожнікаў*, каб абазначыць, што дзеянне адбываецца цяпер?




Дзеясловы, якія змяняюцца па пытаннях *што зробіць? што зробяць? што зрабіў? што зрабілі?*, ніколі не расказваюць пра тое, што адбываецца цяпер.

**112.** Прачытайце. Утварыце ад дзеясловаў новыя словы з дапамогай прыстаўкі ***за-***. Запішыце першыя тры сказы па ўзоры.

У з о р. *Варона каркае — варона закаркае.*

Верабей чырыкае — … … .
Гусь гагоча — … … .
Жаваранак звініць — … … .
Качка кракае — … … .
Зязюля кукуе — … … .
Салавей спявае — … … .

- Як змяніўся сэнс сказаў? Чаму?

**113.** Разгледзьце малюнак. Раскажыце, што вы бачыце на ім.




- Ці аднолькавыя дзеянні абазначаюць дзеясловы *вучыць* і *вывучыць*?

**114.** Прачытайце. Пры чытанні захоўвайце інтанацыю просьбы і катэгарычнага адмаўлення ад дапамогі.

### Я сама

— Хадзі, будзем апранацца...
— Я сама! Я сама!
— Хадзі, будзем умывацца...
— Я сама! Я сама!
Дык хадзі, хоць прычашу я...
— Я сама! Я сама!
Вось умеліца якая
Наша Танечка малая!

*І. Муравейка*

● Выпішыце спачатку дзеясловы, якія адказваюць на пытанне *што будзем рабіць?*, а потым — які адказвае на пытанне *што зраблю?*

● Якія з гэтых дзеясловаў пры змяненні могуць адказваць і на пытанне *што робіць?*

**115.** Прачытайце. Знайдзіце ў тэксце дзеясловы. Вызначце, на якія пытанні яны адказваюць.

Я падыходжу да акна і бачу: бярозу пры хаце густа абляпілі гракі. Яны злятаюць на зямлю, шукаюць галінкі, рвуць сухую леташнюю траву. Гракі будуюць гнёзды. Значыць, скора прыйдуць цёплыя веснавыя дні. Прыгрэе ласкавае сонейка. Будуць цячы па зямлі

ручайкі. Укрыецца чырвонымі завушніцамі вольха. Распусціцца арэшнік. І над яго кустамі няспешна будуць плыць аблачынкі залацістага пылку.

*Паводле Я. Галубовіча*

● Выпішыце з тэксту сказы, у якіх аўтар ужывае дзеясловы будучага часу. Абазначце ў сказах дзейнікі (_____) і выказнікі (=====).



**116.** Прачытайце. Выпішыце з тэксту сказы, у якіх ідзе гаворка пра тое, *што робяць* бярозкі і *што зробяць* бярозкі.

Танклявыя, нібы дзяўчаткі, беластволыя бярозкі ціха шапочуць між сабой, радуюцца. Пупышкі набраклі, вось-вось з іх пакажуцца маладыя лісцікі. І бярозкі прыбяруцца, надзенуць на сябе лёгкія зялёныя касынкі.

*Я. Галубовіч*

● У запісаных вамі сказах падкрэсліце дзеясловы (=====). Абазначце іх час.

● Як выкарыстоўвае аўтар дзеясловы ў тэксце: проста абазначае дзеянні прадметаў ці надае яшчэ бярозкам рысы жывых істот?

## Утварэнне дзеясловаў прошлага часу з дапамогай суфіксаў *-ў, -л*

**117.** Прачытайце. Знайдзіце ў тэксце дзеясловы. Калі адбываюцца дзеянні, якія яны называюць (у цяперашнім, прошлым ці будучым часе)?

**На свята!**

**Я на дачы працаваў —**
**І палоў, і паліваў.**
**А сягоння запрашаю**
**Вас на свята ўраджаю.**

**Гэткай вырасла цыбуля —**
**Пазайздросціла бабуля.**
**І гарох, і боб — на дзіва!**
**Рэпа слаўная ўрадзіла.**

**А якія агуркі!**
**Я не еў яшчэ такіх.**
**Морква растае ў роце.**
**Запрашаю ўсіх я ў госці.**

*М. Пазнякоў*

● Выпішыце з тэксту дзеясловы, з дапамогай якіх аўтар расказвае пра дзеянні, што адбываліся ў мінулым. Пастаўце да іх пытанні.

**Дзеясловы прошлага часу называюць дзеянні, якія адбываліся ў мінулым, і адказваюць на пытанні:** ***што рабіў? (што зрабіў?), што рабіла? (што зрабіла?), што рабілі? (што зрабілі?)*****. Напрыклад:** ***ішоў (прыйшоў), ішла (прыйшла), ішлі (прыйшлі)*****.**

**118.** Запішыце дзеясловы прошлага часу па ўзоры.

У з о р. Зірнуць — зірнуў, зірнула, зірнулі.

Выбраць — ..., ..., ... .
Чакаць — ..., ..., ... .
Знайсці — ..., ..., ... .

Сустрэць — ..., ..., ... .
Схаваць — ..., ..., ... .
Працаваць — ..., ..., ... .

● Звярніце ўвагу, як ўтвараюцца дзеясловы прошлага часу.

Дзеясловы прошлага часу ўтвараюцца з дапамогай суфіксаў ***-ў, -л.***

**119.** Прачытайце. Замяніце дзеясловы ў дужках на дзеясловы прошлага часу па ўзоры.

У з о р. *У вяршалінах дрэў* (гучаць) *прадвечаровыя песні драздоў. — У вяршалінах дрэў гучалі прадвечаровыя песні драздоў.*

1. Бяроза (зелянець) на краі бору.
2. Летні дождж (шапацець) недзе ўверсе.
3. Веснавое сонейка бесклапотна (купацца) ў празрыстай лужыне.
4. Маладыя парасткі хвоі (жаўцець) на канцах галінак.

● Запішыце атрыманыя сказы. Абазначце ў дзеясловах суфіксы.

**120.** Прачытайце. У якім часе адбываюцца дзеянні, пра якія ідзе гаворка ў сказах?

1. Пад бярозай клубком ляжыць калючы вожык.

2. Блакітная страказа сушыць на сонцы празрыстыя крыльцы.

3. Лясное возера дыхае прахалодай.

● Змяніце дзеясловы так, каб яны абазначалі дзеянні, якія адбываліся ў прошлым часе. Сказы, якія ў вас атрымаліся, запішыце. Абазначце суфіксы дзеясловаў.

**121.** Прачытайце. Перакладзіце сказы на рускую мову.

1. Жук узмахнуў крыламі і паляцеў.
2. Сабака ляжаў каля ганка.
3. Алесь першым заўважыў суніцы.

● Беларускія і рускія дзеясловы прошлага часу запішыце парамі. Параўнайце іх. Якога суфікса прошлага часу няма ў дзеясловаў у рускай мове?



**122.** Прачытайце. Як вы думаеце, гэта пачатак, асноўная частка ці канцоўка тэксту?

У Сінім лесе, на пясчаным пагорку, жыў Барсук. Цэлымі днямі ляжаў ён у цёмнай нары ды спаў. У лесе радасна спявалі птушкі, прыгожа цвілі кветкі. А барсук вылазіў з нары тады, калі заходзіла сонца, аціхаў вецер, шэры змрок ахутваў лес.

*З. Бяспалы*

● Выпішыце з тэксту дзеясловы прошлага часу разам з назоўнікамі або са словамі, да якіх яны адносяцца. Абазначце суфіксы ***-ў***, ***-л***.

## Змяненне дзеясловаў прошлага часу па родах і ліках

**123.** Прачытайце. Знайдзіце ў тэксце дзеясловы прошлага часу. Выпішыце іх разам з дзейнікамі. Пастаўце пытанні да дзеясловаў. Абазначце іх канчаткі.

Прыйшоў месяц ліпень. Сонейка кожны дзень песціць і грэе зямлю. І ліпы пры гасцінцы зацвілі буйным кветам. Вакол слаўся густы духмяны пах. У раскідзістых залаціста-жоўтых кронах несціхана чулася пчаліная музыка. Усё прыціхла, як анямела ўсё роўна.

*Паводле Я. Галубовіча*

● Чаму дзеясловы ў прошлым часе адказваюць на розныя пытанні і маюць розныя канчаткі?

Дзеясловы прошлага часу змяняюцца па ***ліках*** *(ландыш расцвіў — ландышы расцвілі)*, а ў адзіночным ліку — па ***родах*** *(салавей лятаў — ластаўка лятала — пер’е лятала)*.

**124.** Прачытайце. Выпішыце з верша дзеясловы, якія адказваюць на пытанні: *што рабіў? што рабіла?* ці *што рабілі?*, а потым — дзеясловы, якія адказваюць на пытанні: *што зрабіў? што зрабіла?* ці *што зрабілі?*

Ты чуў?  
Вырас у кошкі чуб.  
Ніяк не зачэша яго да канца  
І просіць у пеўня яна грабянца.

Ты чула?
Кіта праглынула акула.
Акула на дно нырнула,
А кіт
Хоча пабачыць блакіт.
Вы чулі?
Ваўкі надзелі кашулі,
Кожны
Стракатую ў клетку каўбойку,
І з вераб'ямі палезлі ў бойку.

*Р. Барадулін*





**125.** Разгледзьце ўважліва табліцу. Назавіце канчаткі дзеясловаў прошлага часу ў адзіночным і множным ліку.

| **Адзіночны лік** | |
|---|---|
| Мужчынскі род | Ён ішоў □, ехаў □, прыехаў □ |
| Жаночы род | Яна ішл[а], ехал[а], прыехал[а] |
| Ніякі род | Яно ішл[о], ехал[а], прыехал[а] |
| **Множны лік** | |
| | Яны ішл[і], ехал[і], прыехал[і] |

**126.** Прачытайце. Знайдзіце дзеясловы ў тэксце і вусна пастаўце да іх пытанні. Выпішыце дзеясловы ў сшытак па ўзоры.

У з о р. *Прыляцеў — прыляцела — прыляцелі.*

Салавей, пясняр крылаты,
Прыляцеў вясной дахаты.
Пад лістком расінку соку
Выпіў чыстага, як вока.
Пакланіўся зорцы ў пояс
І паспрабаваў свой голас.

*М. Пазнякоў*

**127.** Спішыце. Падкрэсліце дзейнікі і выказнікі ў сказах. Вызначце лік і род дзеясловаў. Абазначце іх канчаткі.

Зайшло сонца. Хмары зацягнулі небасхіл. Наляцеў вецер і разагнаў хмары. У вышыні заззяла першая зорка. На зямлю лягла ноч.

*З. Бяспалы*

● Якія словы дапамагаюць вам вызначаць род і лік дзеясловаў у прошлым часе?




Род і лік дзеяслова прошлага часу вызначаецца па роду і ліку назоўніка, з якім звязаны гэты дзеяслоў.

**128.** Прачытайце. Змяніце сказы па ўзоры. Запішыце іх. Абазначце канчаткі дзеясловаў. У дужках укажыце іх лік і род.

Узор. *Жаўранкі заспявал[і]* (мн. л.) — *жаўранак заспяваў[ ]* (адз. л., м. р.).

Шпакі прыляцелі. Пралескі расцвілі. Кацяняты схаваліся. Дрэвы зазелянелі. Вожыкі ўцякалі. Шышкі ўпалі.

- Растлумачце, як вы вызначалі род дзеясловаў.



**129.** Спішыце, устаўце ў сказы патрэбныя дзеясловы. Растлумачце свой выбар.

Сонца (узышоў, узышла, узышло) рана і (асвяціў, асвяціла, асвяцілі) адзінае дрэва ля хаты. Гэта быў магутны дуб. Дрэва (рос, расла, расло) раскідзіста і свабодна. Яго вяршыня горда (глядзеў, глядзела, глядзелі) ўдалечыню.

**130.** Прачытайце верш. Выпішыце дзеясловы прошлага часу. Падбярыце да іх дзеясловы жаночага роду адзіночнага ліку і дзеясловы множнага ліку. Запішыце па ўзоры.

Узор. *Ляжаў[ ]* — *ляжал[а]* — *ляжал[і]*.

Лось бязрогі выбег з гаю,
Дзе звініць птушыны грай.
Пастаяў на полі з краю
І назад пабег у гай.

След панюхаў ля дарогі,
Затрубіў і ў смутку сціх.
Лось згубіў у снежні рогі
І цяпер шукае іх.

*В. Гардзей*



● Якія з выпісаных вамі дзеясловаў з'яўляюцца словамі-антонімамі?

**131.** Прачытайце. Знайдзіце ў тэксце дзеясловы прошлага часу.

### Бярозка

На мосціку, у шчыліне паміж дошкамі, расло маленькае дрэўца. Гэта была бярозка. Яна паднімала свае галінкі да сонейка і шапацела зялёным лісцейкам. Быццам прасіла ў людзей прабачэння, што вырасла ў такім нязручным месцы. І людзі шкадавалі яе. Шафёры яе аб'язджалі. Але кожны раз я падыходзіў да мосціка з трывогай. І я вырашыў перасадзіць бярозку ў іншае месца. Узяў рыдлёўку, выкапаў дрэўца і пасадзіў яго каля дарогі.

*М. Янчанка*

● Выпішыце з тэксту дзеясловы прошлага часу. Абазначце іх род і лік.

● Складзіце план апавядання. Перакажыце апавяданне па плане.

**132.** Прачытайце тэкст. Вызначце час і лік дзеясловаў. Запішыце, замяняючы дзеясловы цяперашняга і будучага часу дзеясловамі прошлага часу.

У лесе гаспадарыць залатая восень. А ў вясковых садах і агародчыках яшчэ цвітуць вяргіні, астры, флёксы.

Але міне дзень-другі, і нечакана ўначы ляжа першы зазімак. Выйдзеш ранкам з дому на вуліцу і міжволі здзівішся. Усё навокал стане бялюткім ад шэрані.

*Р. Ігнаценка*

- Якія дзеясловы прошлага часу вы запісалі? Вызначце іх лік і род (вусна).
- Прыдумайце загаловак да тэксту.

**133.** Прачытайце, устаўляючы ў сказы дзеясловы. Сказы запішыце.

1. Гусь белая як снег ... як мех.
2. Сабака хвастом, як мятлою, ... .
3. Кацяня ... спіну дугою.
4. Яблык ... свежым сокам.

Словы для даведкі: *надулася, махнуў, выгнула, наліўся.*

- Сказы, якія вы запісалі, перакладзіце на рускую мову (1—2 на выбар). Параўнайце беларускія і рускія дзеясловы прошлага часу. У чым яны не супадаюць?

**134.** Прачытайце. Перакладзіце на беларускую мову і запішыце.

Иногда из-за туч выглядывало солнце. Холодный туман застилал реку. За лугами куковала кукушка. У берега зашуршали камыши. Через несколько минут из них выплыла лодка.

● Падкрэсліце ў тэксце, які вы запісалі, дзеясловы прошлага часу. Чым яны адрозніваюцца ад рускіх дзеясловаў прошлага часу?



**135.** Запішыце загадкі разам з адгадкамі. Падкрэсліце ў іх дзеясловы прошлага часу. Пастаўце да іх пытанні (вусна). Вызначце лік і род дзеясловаў (вусна).

1. Параход сам не хадзіў,
   Я яго рукой вадзіў.
   Параход ішоў па хвалях.
   Як прайшоў — яны прапалі.





2. Аб ім мы марылі даўно.
   У дом прыехала кіно.
   У разетку падключаецца —
   Мультфільмы пачынаюцца.

*У. Мацвеенка*

## Правапіс дзеясловаў на *-цца, -ся*

**136.** Прачытайце сказы і іх пераклад на рускую мову.

Вавёрка прачынае***цца***. — Белка просыпает***ся***.

Птушкі збілі***ся*** ў кучу на снезе. — Птицы сбили***сь*** в кучу на снегу.

Груша наліла***ся*** свежым сокам. — Груша налила***сь*** свежим соком.

Усе мышы бая***цца*** катоў. — Все мыши боят***ся*** котов.

● Звярніце ўвагу, на што заканчваюцца беларускія і рускія дзеясловы.




**Звярніце ўвагу!** У беларускай мове няма дзеясловаў, якія заканчваюцца на *-**сь***.

**137.** Адгадайце загадку. Запішыце яе разам з адгадкай. Падкрэсліце дзеясловы на ***-цца***.

Само не гаворыць,  
Ды ўсім адгукнецца,  
Наш голас паўторыць,  
Як мы, засмяецца.



**138.** Утварыце дзеясловы на ***-цца*** і запішыце па ўзоры.

У з о р. *Збіраць — збірацца, збіраўся, збіралася, збіраліся.*

Выціраць — ..., ..., ..., ... .
Паслухаць — ..., ..., ..., ... .
Хаваць — ..., ..., ..., ... .
Хваліць — ..., ..., ..., ... .
Раскруціць — ..., ..., ..., ... .

**139.** Прачытайце. Вызначце, як павінны заканчвацца дзеясловы ў вершы.

**Плакалі аблокі**

Цёмныя аблокі
Надзімалі шчокі.
Крыўлялі..,
Кружылі.. .

Пакапалі — паплакалі.
Затым — развесялілі.. .
На радугу садзілі..,
За небакрай кацілі.. .

*П. Саковіч*

● Выпішыце з верша дзеясловы, якія абазначаюць дзеянні аблокаў і адказваюць на пытанне *што рабілі?*

У з о р. *Аблокі* (што рабілі?) ..., ..., ... .

**140.** Спішыце, дапісваючы дзеясловы. Растлумачце свой выбар.

Світае. Сонца яшчэ не паказала.., але неба на ўсходзе ўжо паружавела. Туман сцеле.. над лугам. Прыгібае.. адсырэлая трава. З лістоў сцякаюць кропелькі расы.

*В. Жукроўскі*

● Пастаўце пытанні да дзеясловаў. Вызначце іх час (вусна).

**141.** Прачытайце. Як вы разумееце сэнс гэтых прыказак?

1. Не ошибается тот, кто ничего не делает.
2. Кто любит трудиться, тому без дела не сидится.

● Перакладзіце на беларускую мову і запішыце. Падкрэсліце дзеясловы на ***-цца***.



**142.** Прачытайце, устаўляючы ў тэкст патрэбныя дзеясловы.

Ці чуў ты, як на світанку ... зямля? Сонца ... над лесам. Лес пачынае ... густымі пахамі. Дрэвы ... і сонна ... паміж сабой.

*В. Жукроўскі*

Словы для даведкі: *пацягваюцца, прачынаецца, дыміцца, перагаворваюцца, падымаецца.*

● Спішыце тэкст. У другім і чацвёртым сказах падкрэсліце галоўныя члены.

## Правапіс *не* з дзеясловамі

**143.** Прачытайце. Растлумачце сэнс сказаў. Спішыце. Падкрэсліце дзеясловы з ***не***.

1. Не кажы гоп, пакуль не пераскочыш.
2. Праўда ў агні не гарыць і ў вадзе не тоне.
3. Чаго не ведаеш, пра тое не гавары.

- Звярніце ўвагу на тое, як пішацца ***не*** з дзеясловамі.




***Не*** — невялікае слова ў мове. Але як толькі яно перад дзеясловам становіцца, дык адразу ж усе дзеянні адваротны сэнс набываюць. Таму дзеяслоў вельмі ўважлівы да слова ***не*** і пішацца з ім **асобна.**




**144.** Спішыце, раскрываючы дужкі.

(Не) шасцяць каласы,
Звон (не) валіцца з касы,

(Не) кладуцца ў стог пласты,
Толькі сыплюцца лісты
На яловыя кусты,
На сухія верасы.

*Я. Купала*



*Шасця́ць — шалясця́ць.*

**145.** Прачытайце тэкст. Якая карціна прыроды падаецца ў гэтым тэксце?

Шуміць вецер у лесе. Гойдаюцца дрэвы. З елак і сосен падаюць шышкі. Крычаць навакол птушкі.

- Спішыце тэкст, пры спісванні ўстаўце ***не*** перад дзеясловамі.
- Якая карціна прыроды атрымалася ў вашым тэксце?

**146.** Прачытайце. Якія з гэтых дзеясловаў маюць супрацьлеглы сэнс? Запішыце іх парамі.

У з о р: *маўчаць — гаварыць.*

| | |
|---|---|
| маўчаць | рухацца |
| утаіць | гаварыць |
| зацямніць | паказаць |
| спыніцца | асвятліць |
| упасці | падняцца |
| даваць | забіраць |

- Да другіх дзеясловаў кожнай пары вусна далучыце ***не***. Ці засталіся дзеясловы антонімамі?

**147.** Прачытайце. Вылучайце голасам дзеясловы з ***не.*** Захоўвайце пры чытанні пытальную інтанацыю ў першых пяці сказах.

— Не адхопіш новай двойкі?
— Не пачнеш у школе бойкі?
— Не ўцячэш з урокаў спеваў?
— Не палезеш больш на дрэва?
— Не напішаш на сцяне?
Стась на ўсё адказваў:
— Не!

*А. Бачыла*

● Што абазначае апошняе ***не*** ў адказе Стася? Ці ён адмаўляецца паводзіць сябе так, як патрэбна, ці ён згаджаецца не рабіць дрэнных учынкаў?

● Чаго больш не будзе рабіць Стась? Запішыце па ўзоры.

Узор. *Стась не адхопіць новай двойкі, ..., ..., ..., ... .*

**148.** Прачытайце сказ.

Таня прынесла ў школу свае малюнкі.

● Пастаўце ***не*** перад словам *свае*. Які сэнс набыў сказ?
● Пастаўце ***не*** перад дзейнікам. Як змяніўся сэнс сказа?
● Пастаўце ***не*** перад выказнікам. Што цяпер выражае гэты сказ?

**149.** Прачытайце. Запішыце сказы, устаўляючы ***не*** перад дзеясловамі. Вызначце час і лік дзеясловаў.

1. Вывучыш урок — атрымаеш добрую адзнаку.
2. Будзеш займацца фізкультурай — будзеш спрытны і здаровы.
3. Пасябруеш з кнігай — набудзеш веды.

**150.** Прачытайце. Знайдзіце ў тэксце дзеясловы. Пастаўце да іх пытанні (вусна).

Жыхары Беларусі славяцца сярод іншых народаў сваёй працавітасцю, гасціннасцю і ветлівасцю.

Суседнія народы лічаць беларусаў памяркоўнымі, сціплымі і спакойнымі людзьмі. Беларусы нікога не пакрыўдзяць, не абразяць, ні з кім не пасварацца, калі няма на гэта сур'ёзных падстаў.

І гэта вельмі радасна, што ты жывеш сярод такіх слаўных, добрых людзей.

*Т. Лойка, У. Навумовіч*

***Рэспу́бліка Белару́сь***

● Перад якімі дзеясловамі ў тэксце стаіць ***не***? Чаму? Як пішацца яно з дзеясловамі?



**151.** Адкажыце на пытанні да тэксту практыкавання 150. Адказы запішыце.

1. Чым славяцца жыхары Беларусі сярод іншых народаў?
2. Якімі лічаць беларусаў суседнія народы?
3. Чаму суседнія народы лічаць беларусаў памяркоўнымі і спакойнымі людзьмі?

● У кожным запісаным вамі адказе вызначце словы, з дапамогай якіх аўтары характарызуюць жыхароў Беларусі. Якімі часцінамі мовы з'яўляюцца гэтыя словы?

## ШТО МЫ ВЕДАЕМ?

1. Што абазначае дзеяслоў? На якія пытанні адказвае?
2. Якія формы часу мае дзеяслоў? Назавіце іх.
3. Як змяняюцца дзеясловы ў прошлым часе?
4. Як вызначаецца род і лік дзеясловаў у прошлым часе?
5. Як утвараюцца дзеясловы прошлага часу?
6. Як мяняецца сэнс дзеяслова, калі перад ім з'яўляецца слова ***не***? Як пішацца ***не*** з дзеясловам?

# ПАЎТАРЭННЕ




Набліжаецца прыемная пара — доўгія і вясёлыя летнія канікулы. Вам засталося толькі паўтарыць тое, што мы вывучылі за гэты навучальны год.

**152.** Складзіце з наступных слоў сказы і запішыце іх. Ці атрымаўся ў вас тэкст?

З неба, льецца, высокага, жаваранка, спеў. Падобны, спеў, гэты, на, званочкі, сярэбраныя. Спявак, маленькі, надыход, абвяшчае, вясны. Рады, заўсёды, пачуць, людзі, песню, яго, звонкую.

- Назавіце тэму тэксту. Падбярыце да яго загаловак.

**153.** Падзяліце тэкст на сказы. Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары.

Пача..ся сенакос дз..дуля ўзяў мяне з сабою паспрабаваў і я касі..ь нічога не атрымалася каса ўразалася ў з..млю тады я пача.. разбіваць пракосы гэта работа мне спадабалася пасля я доўга бегаў па лузе і куляўся ў пахучым сене ах, як хараша на сенакосе!

*Паводле В. Віткі*

- Знайдзіце ў практыкаванні аднакаранёвыя словы і падкрэсліце іх.

**154.** Кожны з вас, напэўна, збіраў грыбы ў лесе і можа многае ўспомніць пра гэта. Складзіце 3—4 сказы на тэму «Як я збіраў грыбы» або «У лесе». Запішыце іх.

- Якія сказы ў вас атрымаліся: апавядальныя, пытальныя ці пабуджальныя?
- Падкрэсліце ў сказах назоўнікі.

**155.** Прачытайце. З дапамогай слоў *давай, давайце* і *хай, няхай* пераўтварыце апавядальныя сказы ў пабуджальныя.

1. Мы наладзім у класе выстаўку нашых малюнкаў. 2. Мы запішамся ў спартыўную секцыю. 3. У цябе заўсёды будзе добры настрой. 4. Бацькі дапамогуць вам зрабіць касцюмы для маскараду. 5. Мы будзем з табой сябраваць.

- Запішыце пабуджальныя сказы, якія ў вас атрымаліся.
- Знайдзіце ў сказах прыметнікі і абазначце ў іх канчаткі.

**156.** Падумайце і адкажыце: у якой частцы падручніка часцей за ўсё сустракаюцца пабуджальныя сказы (у правіле, у тэксце практыкавання, у заданні да практыкавання)?

**157.** Прачытайце назоўнікі. Як можна ў кожным радку абазначыць іх сэнс адным або двума словамі?

Дзядуля, пляменнік, дзядзька — гэта ... .
Спявак, мастак, цырульнік — гэта ... .
Зязюля, качка, шпак — гэта ... .
Завіруха, маланка, вясёлка — гэта ... .

Словы для даведкі: *птушкі, сваякі, з'явы прыроды, прафесіі.*



**158.** Прачытайце. З дапамогай якіх выразаў аўтар надае дожджыку рысы жывой істоты?

Дожджык мые, палівае,
Дожджык песеньку спявае.
Мы з бабуляй вельмі рады:
**Цёплы** дождж напоіць грады.
Трэба ўсім дажджу напіцца,
Каб цвісці і каласіцца.
Дожджык, дожджык, палівай!
Будзе ўвосень ураджай!

*В. Вярба*

- Растлумачце правапіс выдзеленых літар.
- Спішыце апошнія чатыры радкі. Падкрэсліце пабуджальны сказ.
- Запішыце выдзеленае слова і антонім да яго.

**159.** Прачытайце. Які гэта тэкст: апісанне ці апавяданне?

Ішоў па лесе грыбнік. У адной руцэ трымаў вялікі кош, у другой — востры нож. Сцеражыцеся, грыбы!



**Раптам грыбнік убачыў у траве чырвоны капялюшык падасінавіка.** Нагнуўся, каб падрэзаць грыб. А гэта пачырванелы асінавы лісток прыкінуўся падасінавікам.

Пайшоў грыбнік далей. Убачыў каля асіны чырвоненькую плямку, але не звярнуў увагі і прайшоў міма. А гэта падасінавік прыкінуўся асінавым лістком.

*Паводле З. Бяспалага*

- Выберыце загаловак да тэксту: «Няўдачлівы грыбнік», «Трэба быць уважлівым», «Хітры падасінавік».
- Вызначце корань у слове *падасінавік*.
- Знайдзіце ў тэксце практыкавання тры роднасныя словы — назвы колеру. Выпішыце іх, абазначце корань.

**160.** Прачытайце. Якія літары прапушчаны?

Бегла мышка па даро..цы.
Падарунак несла кошцы:
Не см..тану, не ала..кі,
А пш..нічныя зярня..кі.
Кошка есці іх не ўмела.
Мышку з..есці заха..ела.

А пасля паразважала —
З мышкай той пасябравала.
*Л. Дранько-Майсюк*

● Спішыце словы з прапушчанымі літарамі. Патрэбныя літары ўстаўце. Скажыце, чым з’яўляецца кожнае з гэтых слоў: назоўнікам, прыметнікам ці дзеясловам?

● У апошнім сказе знайдзіце словы з аднолькавымі прыстаўкамі.

**161.** З дапамогай суфіксаў утварыце ад назоўнікаў:

| дзеясловы | прыметнікі |
|---|---|
| *ноч — начаваць* | *зіма — зімовы* |
| *зіма —* ... | *сталь —* ... |
| *сум —* ... | *стол —* ... |

● Запішыце словы парамі. Абазначце корань.

**162.** Прачытайце выразна. Які загаловак больш адпавядае тэксту: «Хто жыве ў двары» або «Абуджэнне»?

— Кукарэку! Хопіць ляжаць на баку! Уставайце! Сонца сустракайце!

— Гаў, гаў! Я не спаў! Хату вартаваў!

— Мяў, мяў! Ты падняў мяне рана! А мне снілася смятана!

— Му-у! Я твайму гору памагу! Прыйдзе гаспадыня з вядром — пачастую малаком.

— Рох-рох! І я люблю малаком частавацца, а потым у лужыне паваляцца.

— Га-га-га! Лужына мая! Не смейце чапаць! А то буду шчыпаць!

*Паводле М. Баскіна*

● Параўнайце інтанацыю і змест двух апошніх сказаў. Што ў іх агульнае? Чым яны адрозніваюцца?



**163.** Прачытайце верш. Як вы лічыце, Алесь — знаходлівы хлопчык?

**Грыбнік**

— Дзе ты ранкам бы.., Алесь?
— Па грыбы хадзіў я ў лес.
— Што ж ты не набраў гр..боў —
Масл..коў, б..равікоў?
Памаўчаў Алесь хвіліну:
— Я вавёркам іх пакінуў.

*П. Прануза*

● Выпішыце пытальныя сказы, устаўляючы патрэбныя літары.

● Падкрэсліце пытальныя словы.

**164.** Прачытайце тэкст. Пра што ў ім гаворыцца? Прыдумайце да яго загаловак.

Жыве ў лесе агністая, як жар, птушка. На галаве яна носіць шырокі карычневы чуб. На баках у яе

блакітнае пер’е з белымі палоскамі па краях. Завуць гэтую птушку сойка.

Сойка па лесе лятала, арэхі ды жалуды на зіму рыхтавала. На **арэхавым** кусце сарвала самы спелы **арэх** і пад лісце паклала. На старым дубе выбрала самы вялікі жолуд і пад мох схавала.

Пачалася зіма. Снегу намяло шмат. Дзікам — па вушы, ласям — па бруха, чалавеку — па пояс. Арэх і жолуд апынуліся глыбока пад снегам.

А вясною снег растаў. Арэх і жолуд прараслі. Выраслі з іх **арэшынка** і дубок.

*Паводле З. Бяспалага*

● Выпішыце з тэксту выдзеленыя словы. Абазначце ў іх корань. Як называюцца такія словы?

● У двух апошніх сказах знайдзіце словы, якія адрозніваюцца толькі прыстаўкамі. Выпішыце іх, абазначце прыстаўкі.

**165.** Прачытайце план да тэксту практыкавання 164.



1. Лясная прыгажуня.
2. Як сойка да зімы рыхтавалася.
3. Зіма ў лесе.
4. Адкуль з’явіліся арэшынка і дубок.

● Да кожнага пункта плана прачытайце адпаведную частку тэксту.

● Вусна перакажыце тэкст па плане.

● Напішыце пераказ.



**166.** Спішыце слоўнікавыя словы, устаўляючы патрэбныя літары.

П..нал, за..жды, зв..нець, кап..люш, по..та, па..ук, п..лёстак, асц..рожны, Р..спубліка Бел..русь.

**167.** Прачытайце. Знайдзіце аднакаранёвыя словы.

Пакупнік, купальнік, купацца, накупілі, запакавалі, пакупкі, купанне, купляйце, упакоўшчык, упакоўка, купальны.

- Аб'яднайце словы ў тры групы і запішыце кожную з новага радка.
- У запісаных словах абазначце корань.

**168.** Прачытайце. Знайдзіце ў тэксце дзеясловы і выпішыце іх у сшытак, ставячы да іх пытанні.

У з о р. (Што зрабілі?) *дачакаліся,* (што робіць?) *зімуе.*

Дачакаліся пасла —
З цёплай Афрыкі бусла.
Там ён кожны год зімуе,
А як толькі засумуе
Па балотах і лясах,

Прылятае **дужы** птах
Да ўласнага гнязда,
Хоць вясновая вада
Затапіла ўсе лугі,
Ціхіх рэчак берагі.

*С. Грахоўскі*

- З дапамогай якой часткі слова ўтварыліся дзеясловы *прылятаць* і *засумаваць*?
- Падбярыце сінонім і антонім да выдзеленага слова. Запішыце.

**169.** У гэтым апавяданні не хапае пабуджальных сказаў, але ў дужках падказаны іх змест. Пры чытанні аднаўляйце пабуджальныя сказы.

Дзед чытаў часопіс. Раптам у пакой увайшоў дзіўна апрануты хлопчык. На галаве ў яго была каструля, на нагах — татавы боты.

— Я робат! Я прыляцеў да вас з планеты робатаў!

— ... *(Дзед просіць расказаць пра планету робатаў.)*

— Робаты жывуць вечна, не старэюць, не хварэюць. Для іх ёсць запчасткі. Там і вашы хворыя ногі могуць замяніць на металічныя. ... *(Унук запрашае дзеда разам паляцець на планету робатаў.)*

— Не хочацца мне быць робатам. У іх жа не бывае дзяцей і ўнукаў.

— Затое яны вечныя.

— Але ў іх няма сяброў. Яны не ядуць цукерак і не ходзяць у цырк. ... *(Дзед запрашае ўнука разам паглядзець мультфільм.)*

*Паводле У. Ліпскага*

- Прыдумайце да тэксту загаловак.

**170.** Адкажыце на пытанні да тэксту з папярэдняга практыкавання.

1. Што чытаў дзед, калі ў пакой увайшоў хлопчык?
2. Чаму робаты жывуць вечна?
3. Што ўнук прапанаваў дзеду?
4. Ці захацеў дзед жыць на планеце робатаў?
5. Чаму ён адмовіўся стаць робатам?

**171.** Карыстаючыся практыкаваннем 169, дапоўніце сказы. Запішыце іх.

1. У пакой ... дзіўна апрануты хлопчык.
2. Робаты не ... і не ..., як людзі.
3. Я ... да вас з планеты робатаў.
4. Робаты не ... цукерак і не ... у цырк.

- Словы якой часціны мовы вы ўставілі ў сказы?
- Вусна пастаўце пытанні да кожнага з гэтых слоў.

**172.** Выканайце заданне Слоўніка.




Вось і скончыўся навучальны год. Але ў мяне ёсць апошняе заданне для вас.

Прачытайце цудоўны верш Сяргея Грахоўскага, прысвечаны лету. Я знарок апусціў у ім некаторыя словы. А вы паспрабуйце правільна аднавіць іх.

## Лета

Прыходзіць лета звонкае
Птушынаю гамонкаю,
На возеры ля берага
Яно ўзыходзіць зорамі,
А пахне медуніцамі
І спелымі ... .

Пабудзіць лета ...
Шпака і канаплянку,
Блакітнымі дарожкамі
Ляцяць яны за ... .
А вожык у зацішку
Ўжо цікуе ... .

На ранішнія росы
Выходзіць бусел ... .
Над рэчкай, каля за́стаўкі,
Лятаюць нізка ... .
Куды ні глянь — усюды
Цябе чакаюць ....
Цябе чакаюць сцежкі
І добрыя ...,
Лугі, лясы, палі
І шчасце на ... .



*Ціку́е* — рус. *подстерегает.*

Словы для даведкі: *ластаўкі, цуды, усмешкі, мошкамі, мышку, зямлі, суніцамі, босы, зранку.*

# ЗМЕСТ

**Беларуская** мова : падручнік для 3-га кл. устаноў агул.
Б43 сярэд. адукацыі з рус. мовай навучання: у 2 ч. / Т. М. Валынец [і інш.]. — 2-е выд., выпраўл. і дап. — Мінск : Нац. ін-т адукацыі, 2012. — Ч. 2. — 96 с. : іл.
ISBN 978-985-559-071-3.

**УДК 821.161.3(075.2=161.1)**
**ББК 81.2Беи-922**

Вучэбнае выданне

**Валынец** Таццяна Мікалаеўна
**Ратнікава** Ірына Энгелеўна
**Роўда** Іван Сямёнавіч
**Шуба** Павел Паўлавіч

БЕЛАРУСКАЯ МОВА

Падручнік для 3 класа
ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі
з рускай мовай навучання

У дзвюх частках

Частка 2

2-е выданне, выпраўленае і дапоўненае

Нач. рэдакцыйна-выдавецкага аддзела *Г. І. Бандарэнка*
Рэдактар *Л. Б. Сопат*
Мастацкі рэдактар *І. А. Усенка*
Мастакі *С. Л. Пятрова, А. А. Чарапеніна, М. У. Мароз, І. У. Лазерка*
Камп'ютарная вёрстка *Ю. М. Галавейкі*
Карэктары *Н. М. Кумагер, К. В. Шобік*

Падпісана ў друк 14.08.2012. Фармат 70×90 1/16. Папера афсетная.
Друк афсетны. Ум. друк. арк. 7,02. Ул.-выд. арк. 3,04 + 0,47 форз.
Тыраж 106 500 экз. Заказ

Навукова-метадычная ўстанова «Нацыянальны інстытут адукацыі»
Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь. ЛИ № 02330/0494469
ад 08.04.2009. Вул. Караля, 16, 220004, г. Мінск

ААТ «Паліграфкамбінат імя Якуба Коласа». ЛП №02330/0150496
ад 11.03.2009. Вул. Чырвоная, 23, 220600, г. Мінск

